ЛІТАРАТУРА
І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

16 мая 1997 г. № 20/3896 Кошт 3 000 руб.



## ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСКА

Шаноўныя чытачы, працягваецца падпіска на наш тыднёвік на другую палову 1997 года. Падпісацца на "ЛіМ" можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт тыднёвіка на паўгоддзе — 60 тысяч рублёў, на квартал — 30 тысяч, на месяц — 10 тысяч.

**Наш індэкс — 63856.**

# *І ўсе тут па-свойму шчаслівыя...*



У Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі Беларусі — прэм'ера: Яган Штраус, "Цыганскі барон". Класіка! Тая самая аперэтачная класіка.

Якая?

Тая, ад якой трапечуць сардэчныя струны меламанаў.

У якой "купаюцца" выканаўцы.

Драматургічныя недарэчнасці перакроеных-пераніцаваных лібрэта якой спаконвечна гарантуюць і недарэчнасці пастановачныя. Які б спанатраны рэжысёр за тую пастаноўку ні браўся.

Тая самая класіка, якая робіць урэшце ўсіх... шчаслівымі.

Каго?

Тэатр, які зазнаў аншлаг.

Публіку, якая адчула сябе не чужаніцай на вясёлым дураслівым фэсце.

Крытыкаў, якія атрымалі свежую спажыву для сваіх згаладалых пёркаў.

І, вядома ж, саміх аперэтачных герояў, якія набылі новае жыццё, новае аблічча на сцэне нашага тэатра.

А стварылі для іх гэтае новае жыццё, прапанаваўшы перанесці дзею "Цыганскага барона" з Венгрыі XVIII стагоддзя ў першую палову XIX, майстры свайго жанру і апантаныя мастацтвам людзі. Рэжысёр-пастаноўшчык Барыс Лагода (з нядаўняга часу — галоўны рэжысёр тэатра), музычны кіраўнік і дырыжор Аляксандр Сасноўскі, мастак-пастаноўшчык Яўген Ждан ды мастак па касцюмах Вольга Далонкіна, балетмайстар Ніна Дзячэнка, хормайстры Тамара Гуліна ды яе самаадданая памочніца Святлана Пятрова.

І яшчэ — артысты, сярод якіх Аляксей Ісаеў ды Людміла Станевіч, Арнольд Ранцанц ды Лідзія Кузьміцкая, Герман Казлоў ды Зінаіда Вяржбіцкая, Пётр Рыдзігер ды Ірына Скорабагатава...

Не ўсе яны, зразумела, змаглі патрапіць у аб'ектыў фотарэпарцёра. Але кожнага героя, кожны персанаж, кожную сцэнічную сітуацыю вы зможаце ўгледзець і абмеркаваць "у натуры", завітаўшы на прэм'еру. Калі патрапіце ў тэатр, вядома. Калі зможаце дастаць білет...

**С. ВЕТКА**

*Фота Віт. АМІНАВА*



ВІНШУЕМ!

# Прэміі прафсаюзаў

***Прэзідыум Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі прысудзіў прэміі 1997 года ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і самадзейнай творчасці з наданнем звання лаўрэата, уручэннем Ганаровага знака, Дыплома і грашовай узнагароды:***

**I. За творы прозы і паэзіі.**

МАЛЯЎКУ Мікалаю Аляксандравічу, паэту — за зборнік вершаў "Ручнічок на крыжы".

**II. За музычныя творы і канцэртна-выканальніцкую дзейнасць.**

ЗАРЫЦКАМУ Эдуарду Барысавічу, кампазітару — за песенны цыкл "Пад родным небам";

КАРАНТУ Георгію Аляксеевічу, канцэртмайстру — за творчы ўклад у пастаноўку оперных спектакляў у апошнія гады і падрыхтоўку канцэртных праграм.

**III. За работы ў галіне тэатральнага- і кінамастацтва.**

ЖДАНОЎСКАМУ Міхаілу Андрэевічу, кінарэжысёру — за дакументальны відэафільм "На каждый звук есть эхо на земле".

**IV. За творы жывапісу, скульптуры, графікі і прыкладнога мастацтва.**

БАЎТРУК Зарыне Уладзіміраўне, мастаку (пасмяротна) — за серыі керамічных работ: дэкаратыўныя пласты "Сумерки", дэкаратыўныя пасудзіны "Фламинго", дэкаратыўныя збаны "Ирисы".

**V. За работы ў галіне журналістыкі.**

ЕКЕЛЮ Леаніду Сямёнавічу, журналісту — за цыкл нарысаў, прысвечаных людзям і праблемам сённяшняга дня;

БЯЛЕЦКАЙ Лiліі Эдуардаўне — спецыяльнаму карэспандэнту, ДАВІДОВІЧ Алене Анатольеўне — каментатару, ЖУК Ірыне Іванаўне — каментатару, РАБЧУКУ Юрыю Мікалаевічу — старшаму рэдактару радыёпраграмы "Прамень" рэспубліканскага радыё Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь — за падрыхтоўку і выпуск інфармацыйна-аналітычных радыёперадач сацыяльна-эканамічнай накіраванасці.

**VI. За актыўную работу па развіцці народнай культуры і самадзейнай творчасці.**

ІВАНОВАЙ Стэле Станіславаўне — дырэктару Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці; КУНДЗЕ Леаніду Антонавічу — дырэктару Брэсцкага абласнога Палаца культуры прафсаюзаў.

**VII. За высокія дасягненні ў самадзейнай мастацкай творчасці (сярод дарослых самадзейных калектываў).**

Народнай харавой капэле Рэспубліканскага міжсаюзнага Палаца культуры прафсаюзаў (мастацкі кіраўнік ШЫМАНОВІЧ Ларыса Андрэеўна, хормайстар АЎРАМЕНКА Валерый Лявонцьевіч).

**VIII. За высокія дасягненні ў самадзейнай мастацкай творчасці (сярод дзіцячых самадзейных калектываў).**

Узорнаму ансамблю танца "Зубраня" Палаца культуры "Аўтазаводзец", г. Мінск (мастацкі кіраўнік ГУТМАН Яфім Якаўлевіч).

Рыгор БАРАДУЛІН

# Дурноты

## Не выпрастаць!

*Гарбатага спіной*
*Выпроствае магіла.*
*Гарбатага душой*
*Аніякая сіла!*

## Цнатлійка

*Як крытычны ўзрост перасягне*
*Вечна маладая крытыкеса,*
*Прысягнуць гатова на сцягне,*
*Што яна цнатлівая,*
*Як прэса.*

## І састарэўшы...

*Хлусня —*
*Кабеціна сторукая.*
*Паклёп гарцуе юнаком.*
*Стукач, і састарэўшы,*
*Стукае*
*Хоць у халодны дол*
*Кійком...*

## І справа й страва

*Палітыка —*
*Такая справа,*
*Што славу*
*й ганьбу прынясе.*
*Палітыка,*
*Як тая страва:*
*Ледзь пакаштуеш —*
*Пранясе!*

## Дзякуй!

*Скалгашваць, гулажыць,*
*Спяшацца ў жабрацтва,*
*Куляцца ў равы*
*Дапамагалі нам*
*З радасцю брацкай*
*Засланцы з Масквы.*

## Інтэграцыя

*Два жабракі*
*Інтэгравалі торбы,*
*Іх за сваіх*
*Прыняў вярблюд двухгорбы.*

## Адкрыццё

*Чужых глытаць*
*нясмачна дужа,*
*А вось сваіх зусім цікава,*
*Так думала ўдава удава,*
*Пакуль пераструўляла мужа.*

## Брэх

*Вядома падбрэхічам,*
*Дзе зарыты*
*Сабака савецкай сістэмы.*
*І брэшуць на Сораса*
*АнтыСЭМіты,*
*Як на пляменніка*
*Дзядзькі Сэма.*

## Вядзе...

*І, галаву згубіўшы,*
*Тулава*
*Карчуе на мяжы слупы.*
*Рашуча ў светлае мінулае*
*Вядзе бязногага сляпы...*

## Мала чырвані...

*Лічаць —*
*Мала чырвані ў герані,*
*На няверных*
*Не шкадуюць сажы*
*Камуністы на тэлеэкране,*
*Як нудысты*
*На зімовым пляжы.*

## І я...

*Ашчэрыў пашчу алігатар:*
*— І я таксама інтэгратар,*
*Усіх я ў жываце ратую*
*І незалежнасць гарантую!*

## Васяры

*Калі майструюць восі*
*Васяры,*
*Яны і не падумаюць*
*Пры гэтым,*
*Што гэту вось*
*Загоняць ім сябры*
*У мейсца адпаведнае*
*З імпэтам.*

ВЫСТАВЫ

# Мастацтва заўтрашняга дня?

Выяўленчым мастацтвам у нас традыцыйна лічыцца трыяда "Жывапіс — графіка — скульптура". Таму выстава, што зараз працуе ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры, будзе ўспрынята многімі гледачамі як нешта, што мае да мастацтва толькі ўскоснае дачыненне. Між тым, гэта сапраўднае мастацтва. Мастацтва ХХ стагоддзя. Мастацтва — як адлюстраванне новых тэхнічных магчымасцяў, новых тэхналогій. Выстава мае назву "Святло і жывапіс". Арганізатары выставы — Галандскі фонд з такой жа назвай, Амбасада каралеўства Нідэрланды, прадстаўніцтва канцэрна "Філіпс" у Беларусі, англа-амерыканскі канцэрн "В. А. Т.", гандлёвая палата горада Эйндховена.

Творы мастакоў розных краін і часоў дазваляюць прасачыць, як на працягу стагоддзяў мянялася роля святла ў жывапісе і як эвалюцыя разумення святла мяняла жывапіс.

**В. БОГУШ**



*На здымках В. Стралкоўскага — фрагмент экспазіцыі і графічны аркуш В. Вілнера (Расія) "Насы".*



ЭКСЛІБРЫС

# Шыпшына і ружа

*"Застаюся". Людміла Рублеўская. "Выкраданне Эўропы". Віктар Шніп. "Тэмікс". Мінск, 1996.*

**Калі два паэты збіраюць свае вершы пад адной вокладкай кнігі, дык у чытача заўсёды ёсць спакуса параўноўваць гэтыя вершы, вызначаючы, чые лепшыя, а чые горшыя. Але ёсць і выключныя выпадкі, вось як у гэтай кніжцы, калі паэты — муж і жонка. Тады параўнанні наадварот становяцца цікавымі, хаця б таму, што вершы пісаліся ў адной кватэры.**

**Ёсць штосьці супольнае ў гэтых вершах, амаль як у дзяцей з адной сям'і. Не матывы, бо пішуць яны пра рознае, і не стыль, бо пішуць яны па-рознаму, і не паэтычны настрой, бо ён таксама ў паэтаў адрозны, а хіба што агульны дух творчасці, агульныя погляды на сённяшняе жыццё, якое за апошнія гады прынесла беларускай інтэлігенцыі столькі спадзяванняў і расчараванняў.**

**Аптымістычная вера ў "разумны" і нават "мудры" беларускі народ змянілася рашучым разуменнем разнароднасці і неадназначнасці гэтага народа. "Яны спачываюць і поўняць дамы юрлівымі снамі ды храпам", піша Л. Рублеўская. "Мая Айчына — ты мая Магіла. Як каменем мяне ты прыдушыла...", глядзіць В. Шніп шырока раскрытымі вачыма на тое, што робіцца навокал.**

**Але паэты жывуць не толькі ў сённяшнім "сумным свеце". І вось тут у іх у кожнага свой сусвет.**

**Увогуле, падаецца, што для Л. Рублеўскай сучаснасць у яе паэзіі — гэта тое, з чым чалавек мусіць прымірыцца, бо ён, на жаль, не выбірае час свайго нараджэння. Менавіта таму яна змушана жыць у гэтым часе, хадзіць у краму, адводзіць дзяцей у садок і рабіць па інерцыі ўсё тое, што робіць сённяшняя кабета. Але ў сваіх марах, у сваіх вершах яна жыве ў іншым часе і ў іншым вымярэнні, у сваёй творчасці ёй прыносіць найвялікшую асалоду вяртацца ва ўтульную для яе эпоху шляхецкага рамантызму. І вось яна размаўляе з Пані, якая "за вышываннем каляровым бавіць час у залачоных крэслах", а таксама з Невядомай паэткай, якая "не хацела жыць, як усе, а інакш не выходзіла, пэўна". Вось яна ходзіць па манаскай келлі, прыслухоўваецца да сябе і "не адчувае ні тугі ні страху. Адно — жаданне, каб застацца тут". Яна прыглядаецца да шыпшыны, і сумны настрой, характэрны для яе паэзіі, выплёскваецца з верша і зачароўвае чытача: "Мой дзікі агеньчык, запалены Богам самім. У белыя рукі паненак трапляеш ты рэдка".**

**Калі Л. Рублеўская любіць шыпшыну, дык В. Шніпу болей падабаецца ружа, якая ў яго "застылы выбух святла, да якога злятаюцца пчолы". І зорка ў паэта, "гэта ружа, ля якой як матылі лётаюць людскія душы". Лепшыя вершы В. Шніпа — гэта вершы самастойныя, не падказаныя, хай сабе і ўдалымі формастварэннямі іншых паэтаў. Найбольш арганічна падпарадкоўваюцца яму класічныя вершаваныя формы.**

**Быць прафесійным паэтам у наш час не проста, але лёс паэты, "нават калі зноў бізунамі заплоцяць", як піша Л. Рублеўская, сабе не выбіраюць.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

# Альтэрнатыва журфаку?

Шэраг айчынных незалежных выданняў абвясцілі пра правядзенне цікавай акцыі пад назвай "Новае пакаленне беларускіх журналістаў". Газеты "Свабода", "Имя", "БДГ", "Свободные новости" і "Белорусская газета" звярнуліся да студэнтаў апошніх курсаў ВНУ ды іншых маладых людзей ва ўзросце да 30-ці гадоў, якія лічаць сябе здольнымі да журналісцкай працы, з запрашэннем на трохтыднёвыя курсы. Гэтыя самыя курсы будуць уяўляць сабою "сустрэчы ў рэдакцыях, практычныя заняткі, прафесійныя дыскусіі" з удзелам супрацоўнікаў рэдакцый памянёных выданняў і замежных экспертаў. У аб'явах пра гэта таксама гаворыцца, што "пасля курсаў і кароткатэрміновай стажыроўкі здольныя да журналісцкай дзейнасці людзі будуць запрошаны на сталую працу ў беларускія незалежныя СМІ".

Чаму гэта раптам незалежныя выданні распачалі пошукі новых маладых сілаў? Адказаць на гэтае пытанне мы папрасілі галоўнага рэдактара газеты "Свабода" Ігара Герменчука.

— Нам патрэбны рэпарцёры, — сказаў ён, — якія могуць і ўмеюць шукаць навіны і прафесійна, пажурналісцку падаваць іх на старонках газеты. Сёння падаецца малым пісаць пра тое, што навідавоку. З тых, хто мае журналісцкую адукацыю, толькі прыблізна 1/3 здольныя працаваць прафесійна. Аднак нават многія з гэтай адной трэці не хочуць працаваць на поўную сілу, яны імкнуцца тыя ці іншыя падзеі каментаваць самі замест таго, каб звярнуцца па каментарый да кампетэнтнай і вядомай у краіне асобы. Нельга быць задаволенымі кадрамі, якія рыхтуе для айчыннага друку факультэт журналістыкі БДУ. Мы запрашаем таксама і студэнтаў журфака на нашыя курсы, будзем іх вучыць...

Можна меркаваць, што пазіцыя іншых рэдактараў незалежных выданняў гэткая ж. Такім чынам, абвешчаная акцыя "Новае пакаленне беларускіх журналістаў" станецца ў пэўнай ступені альтэрнатывай факультэту журналістыкі. Агульнавядома ж, што здаровая канкурэнцыя спрыяе справе, а сучаснай беларускай журналістыцы, сапраўды, не стае свежай крыві.

А як ставіцца да наладжвання гэтых курсаў бок, што дае "класічную" журналісцкую адукацыю, — журфак БДУ? Дэкан факультэта спадар Васіль Вераб'ёў лічыць, што канкурэнцыя — гэта нармальная з'ява, але пяць гадоў універсітэцкага навучання ўсё ж значаць нешта, а за тры тыдні і без пэўнай базы ці можна стварыць хоць штосьці грунтоўнае?..

**Кірыла ПАЗНЯК**

ЭСЭ

Ірына БУРДЗЯЛЁВА, Пятро ВАСЮЧЭНКА

# Укрыжаваная Беларусь

*Памяці Ігната Канчэўскага ахвяруем*

## ПУНКТ ZERO

Стасункі народаў з агульным людствам адбываюцца не бязладна, а згодна з сілавымі лініямі-шляхамі, вызначанымі Творцам, прыродай, гістарычнымі рэаліямі, матэрыяльнымі патрэбамі.

У смузе няпісанай гісторыі захавана нараджэнне магутнай транснацыянальнай вертыкалі "Поўнач — Поўдзень" — "з Варагаў у Грэкі", якая збольшага й сфармавала той гістарычны абсяг, у якім жылі нашыя продкі, знітаваныя са Скандынавіяй ды Пярэдняй Азіяй. Уздоўж гэтай вертыкалі і паўстала нашая першая дзяржава — Полацкае княства, тут узнялася новая вера, пісьменства, культура. Сілавое поле, звязанае з вертыкаллю, засталося і тады, калі сам шлях "з Варагаў у Грэкі" перастаў існаваць як гістарычная рэальнасць, абсечаны крыжакамі на поўначы і татара-манголамі на поўдні. Нават тады ўсходнеславянскія землі будуць аб'яднаны па вертыкалі, ад мора да мора, у Вялікім княстве Літоўскім у ягоныя зорныя часы.

Ад пачатку XIII стагоддзя, калі Беларусь пераарыентавалася на Заходнюю Еўропу, у жыцці нашых земляў праявілася новая сілавая лінія — гарызанталь, Захад — Усход. Ад гэтага часу яна будзе дамінаваць у нашых стасунках з еўрапейскім светам.

Дзве найважнейшыя лініі, што злучаюць землі і народы, перакрыжоўваюцца на Беларусі. Наша краіна апынулася ў цэнтры крыжа, або ў нулявой адзнацы каардынатаў, пункце zero, які ёсць усім і нічым, адвечнай канстантай.

Крыж і кола (адменнік памянёнага zero) абраныя ўсёй "нашаніўскай" літаратурай за ключавыя вобразы-сімвалы. Персанажы Купалы, ад "Адвечнай песні" да "Раскіданага гнязда" ды "Паязджанаў" тое і робяць, што нясуць крыж зямное працы й пакуты, а нядоля заварочвае іх шлях у замкнёнае кола. Гістарычны залом закрывае будучыню забранаму краю.

Малады настаўнік Лабановіч зведаў і пачуццё безвыходнасці ўнутры зачараванага кола абставінаў, спыніўся на крыжы дарог — "на ростанях", панёс і ўласны крыж першых пакутаў-выпрабаванняў — зняволення.

## "СІНЯЯ-СІНЯЯ"

Ад беларускіх узвышшаў плывуць у процілеглых накірунках рэкі. Мяжа гаспадарстваў ад Балтыі ды Чорнага мора праходзіць, зноў жа, праз нашыя землі. "Сіняя-сіняя" назваў Уладзімір Караткевіч Беларусь у адным з самых шчымлівых сваіх апавяданняў. Сіняя ад безлічы крыніцаў і рэчак, азёраў ды балатоў з іх павольнай, нерухомай вадой.

Караткевіч назваў адну з вызначальных стыхіяў Беларусі — ваду. Разам з тым вада лічылася захавальніцай і правадніцай энергіі ды інфармацыі ў кожным фізічным целе. Тут, на гэтай "вільготнай" зямлі шмат што нараджалася, але непрыкметна, нягучна. Нараджалася, каб выразна і маштабна праявіцца на іншых землях.

Спашлёмся на даследаванне аднаго з аўтараў эсэ "рэвалюцыйнага" верша-маніфеста Цёткі "Мора" (артыкул "Вопыт вяртання да пачаткаў" у часопісе "Нёман", N 2 за 1997 год), дзе высвятляецца, што "мора" з ягонымі хвалямі, "бурапенай" ды русалкамі нагадвае пра мора Герадотава.

***Мора зброіцца палкамі,***
***Шум русалак разбудзіў,***
***Запаліўся смок агнямі,***
***Неба чорны гнеў пакрыў.***

Пра яго згадвае Здольнік з купалаўскіх "Тутэйшых": "мора мелі — называлася Пінскае, — але акупанты змяшалі яго з гразёй, дык засталося толькі Пінскае балота".

У вершы Цёткі разварушылася менавіта балота, якое памятае пра часы, калі было морам. Яно ж бурапеніць у "Энеідзе навыварат" В. Равінскага: "Бублілась, пенілась, шумела..." Бурленне балота — пасіянарны выбух, раптоўная актыўнасць нацыі, апанаванай, здавалася б, хранічнай апатыяй. Разбуральная моц абуджанага балота непрадказальная. Пра яе кажа Міхась Чарот у футурыстычнай паэме "Босыя на вогнішчы":

***Чырвоны колер ціхіх хваль...***
***У іх відаць адбітак неба.***
***І з тых краёў, дзе смерць і баль,***
***Руччы крывавыя шле глеба.***

***Русалкі скачуць з лесуном.***
***Музыка грае — "бух ды бразь"!***
***І вось, хто спаў адвечным сном, —***
***Усплыў над возерам — "сам князь"!***

А пачыналася так незаўважна, так ціха...

***Спачатку яно шалясцела***
***Вельмі нясмела,***
***А потым лізнула аконца***
***Ціха, як сонца.***

*(Янка Купала, "Безназоўнае").*

Ціхім быў бунт зацятага "чалавека на балоце", Васіля Дзятліка, які гэтак упарта чапляўся за ўпадабаны кавалак зямлі, "той, што каля цагельні".

Згвалтаванае балота ў "Нерушы" Віктара Казько помсціцца грандыёзнай паводкай, што нагадвае пра часы Ноя, а потым апакаліптычнай чорнай бурай.

Не ў першы раз заўважаецца, што беларуская ментальнасць хавае ў сабе архетып багны, дрыгвы. Адно сляпы або чужынец можа адмаўляць хараство балотнага краявіду. Рызыкоўна і выпрабоўваць вонкава спакойную, непрадказальную блакітную стыхію.

Варта ведаць адну ўласцівасць балота: на ім немагчыма што-небудзь пабудаваць. Але і дарэшты разбурыць немагчыма.

Энергія Герадотавага мора можа сплысці ў нетры Палесся, прыхавацца, як нячутна хаваецца ва ўласным панцыры палеская дрыгвяная чарапаха. Праз літаратуру, як праз ракавіну, чутны пошум памерлага мора. Але яно нагадвае пра сябе — і не толькі ў літаратуры.

Як ціха, амаль незаўважна пачыналася ў дамку па-над Свіслаччу ў 1898 годзе! Аж пакуль па ўсіх абшарах Расійскай імперыі і далей не разлілася "такая чырвоная паводка... такая, медЖду протчым, паводка, аб якой не снілася ні Фараону, ні Салямону..." (Янка Купала, "Тутэйшыя").

Каб ізноў жа ціха сунцца дзе-небудзь у нетрах Белавежскае пушчы.

***Ў чарцы цёмнай і глыбокай***
***Плешча, пеніца віно;***
***Хмелем светлым і халодным***
***Калыхаецца яно".***

*(М. Багдановіч, "Возера").*

Якую новую неспадзяванку свету абяцае "цёмная", "глыбокая", "халодная", "сіняя-сіняя"?

## ВОКА ТАЙФУНА

На пачатку стагоддзя Ігнат Абдзіраловіч звяртаў увагу на нявызначанасць і няпэўнасць беларусаў паміж іншымі еўрапейскімі народамі. Не стаўшы фармальна ні народам Усходу, ні народам Заходняе Еўропы, беларусы захавалі, тым не менш, незалежнасць свайго духу.

Уласнай непраяўленасцю Беларусь нагадвае вока тайфуна: вакол усё бурапеніць, віруе, а ўсярэдзіне як быццам ціха. Суседзі актыўна "афармляюцца": набываюць выразнае культурнае, рэлігійнае, палітычнае аблічча; яно кідкае, выразна акрэсленае ды ўражлівае. Мы іншыя, бо ў цэнтры крыжа, на скрыжаванні каардынатаў. На нашай зямлі адбываецца своеасаблівая дыфракцыя ўсяго, што ёсць на перыферыі, і разам з тым нішто не дамінуе, не сінтэзуецца ў штосьці якасна новае. Цэнтр, zero, заўжды імкнецца да раўнавагі, а гэта — вонкавая недапраяўленасць, нявызначанасць.

У гэтым трагедыя і абранасць. Як быццам Творца на пачатку свету ўбіў некалькі "цвікоў" у энергетычнае поле Зямлі, каб стабілізаваць, зафіксаваць яго ў некалькіх кропках, не даць яму з'ехаць набакір. Тут адметны хранатоп, бо адзін з "цвікоў" — тут. Асноўная праява гэтай зямлі перанесеная з вонкавага на ўнутраны, схаваны ад вачэй план.

Грэючы душу ўспамінамі, вялікі ліцвін Адам Міцкевіч у лекцыях па славянскай філалогіі ў Пары дэ Франс так выславіўся пра сваіх суайчыннікаў: "Жыццё іх цалкам у духу. На зямлі іх гісторыя поўна смутку і жальбы". На Беларусі шмат чаго алагічнага, невытлумачальнага, непадуладнага сілагізму.

## МЫ ЁСЦЬ

Самае алагічнае — тое, што мы ўсё-ткі ёсць. На гэтай крыжаванай зямлі на працягу апошніх пяці стагоддзяў гіне то кожны другі, то кожны трэці, чацвёрты. Чарнобыль пасыпаў радыяцыйным попелам галовы тубыльцаў — Уладзімір Дубоўка задоўга перад падзеяй упэўніваў: "Чарнобылем не зарасцеш". Неаднойчы ў нашае гісторыі здавалася, што колькасць людскіх стратаў пераваліла крытычную масу і пасля такога адрадзіцца немагчыма. Ніводзін з еўрапейскіх народаў на працягу такога доўгага часу не вынішчаўся гэтак сістэмна і бязлітасна, як мы.

***А мы сабе сеем і сеем***
***Пшаніцу, і радасць, і кветкі;***
***Ачышчаным семем насеннем***
***Шчаслівыя нашы палеткі...***

пісаў Купала ў 1938 годзе.

Мы існуём, як Караткевічаў заяц і куст калючага глогу насуперак нармальнай логіцы, упартыя і нязменныя аўтахтоны на працягу Бог вем колькіх тысячагоддзяў.

Нас не магло б быць як культурнага цэлага і пасля 300 год безупыннай амаль асіміляцыі, дэнацыяналізацыі. Безумоўна, яе вынікі балючыя, проста трагічныя, але Беларусь духоўна неўміручая. Беларуская меншасць даравала і даруе свае таленты літаратуры, выразніцы нацыянальнага духу. Хаця ў побыце пануе чужая мова, не хоча душа працаваць на ёй, выказваць запаветнае пазычанымі словамі. "Мова ж і ёсць адзежа душы" (Ф. Багушэвіч).

Калі працягваць "раслінную" сімволіку нашае зямлі, дык можна ўзяць за адпаведнік трыпутнік, што расце абапал бітае дарогі. Ён някідкі, рэдка зважаюць на яго, без жалю топчуць ды скубуць, а ён усё адно расце там, дзе ўжо нішто расці не можа.

## БЕЛАЯ ПЛЯМА

"Народ, Беларускі Народ!" — у роспачы выгукнуў класік, і гэта быў не адно рытарычны вокліч, а й рытарычнае пытанне. Паміж тым, пытанне варта адрасаваць і той зямлі, на якой мешкаюць тутэйшыя.

Дык што ж гэта за зямля такая? Белая, недаследаваная тэрыторыя, Terra incognita, ды не дзе-небудзь у тропіках Афрыкі або ў амазонскае сэльве, а ў самым геаграфічным цэнтры стаптанай уздоўж ды ўпоперак, стомленай Еўропы. Беларусь — белая пляма ў сярэдзіне кантынента.

Белае — таксама zero ў колеравай гаме, непраяўленасць, адсутнасць колеру, але разам з тым і спалучэнне ўсіх колераў разам. Беларусь — недасяжная субстанцыя для рацыянальнага мыслення, яна адступае ў нязведанае вымярэнне, да яе трэба дайсці, даляць.

Максім Багдановіч у "Санеце" фіксуе гэтую прыхаванасць, непраяўленасць, недасяжнасць у вобразе-сімвале зерня, пахаванага ў гліняным начынні. Дайсці да гэтага зерня не лягчэй, чым да смерці Кашча ў яйку: трэба адолець пяскі пустэльні, раскапаць грабніцу, знайсці гаршчок, у якім дрэмле зерне з ягонай нявыдаткаванай жыццёвай сілай.

Беларусь не проста непраяўленая, белая краіна, гэта "зачараванае" царства; адно літаратары ды прарокі ад палітыкі калі-нікалі спрабавалі "расчароўваць" яго.

## БЛАГОЕ НАЧАЛЬСТВА

Апокрыф ад Уладзіміра Караткевіча:

"...Бог падумаў, крэкнуў, але назад адбіраць не будзеш. Сапраўды, ёсць ужо яна, зямля. Лані бягуць — лес варушыцца. Рыба чаўны з вады выціскае. Дрэвы — да сонца. "Добра, — кажа, — зямля будзе — рай. А каб не занадта вы перад маім раем ганарыліся — дам я вам найгоршае ўва ўсім свеце начальства. Яно вам таго раю трохі збавіць дый пыхі трохі-трохі вам саб'е. Гэта вам для раўнавагі".

Вартаўнікоў не любяць нідзе і надзяляюць іх зневажальнымі мянушкамі ("бобікі",

*(Працяг на стар. 12)*



**АД АЎТАРАЎ. Не варта патрабаваць ад гэтага тэксту стопрацэнтнай навуковай строгасці — большасць вядомых нам мысліцеляў не пільнаваліся яе. Жанр эсэ дапускае вольную гульню асацыяцый, літаратурныя алюзіі ды артэфакты ў якасці доказаў і моманты ірацыянальнага шчыравання. Мы дбаем пра тое, каб прыўзняць заслону над таямніцай беларускай душы ды лёсу Бацькаўшчыны.**

## Беларуская "Рунь" — у Вільні

**У свой час старажытная Вільня сталася месцам нараджэння беларускай прэсы — менавіта там выходзілі першыя нацыянальныя газеты "Наша доля" і "Наша ніва". Але апошнія гады ў Вільнюсе, цяперашняй сталіцы суседняй літоўскай дзяржавы, беларускай прэсы не было чуваць, калі не лічыць адроджанай там "новай" "Нашай нівы", адразу заяўленай, як выданне інтэлектуальна-элітарнае. Але сёння ў літоўскіх беларусаў нарэшце ёсць свая газета — "Рунь". Ужо выйшла два яе нумары — газета задумана як штомесячная. Выхад першага нумара "Руні" быў прымеркаваны да гадавіны абвяшчэння незалежнасці БНР.**

**Заснавальнік і выдавец газеты — Таварыства беларускай культуры ў Літве, наклад — 1000 асобнікаў.**

**Старшыня Таварыства беларускай культуры Хведар Нюнька ў звароце да суайчыннікаў на першай старонцы "Руні" згадвае, што выданне падобнай газеты — набалелая праблема, і толькі нядаўна, пасля пэўных палітычных змен, беларусы Літвы атрымалі магчымасць актывізаваць сваё культурнае жыццё. Хаця і сёння ў складзе заканадаўчай і выканаўчай уладаў Літвы не маюць сваіх прадстаўнікоў. Таму на газету "Рунь" ускладаецца роля звязваючага звяна між беларускай грамадскасцю, уладамі Літвы і прадстаўнічымі структурамі Беларусі.**

**У першым нумары газеты таксама змешчаны артыкул пра заснаванне БНР, фотарэпартаж Сержука Вітушкі і Генадзя Жынкова пра Казюковы кірмаш, гутарка з міністрам адукацыі і навукі акадэмікам Зігмасам Зінкявічусам, артыкул — віншаванне юбіляра — спадара Лявона Луцкевіча, аднаго з самых вядомых віленскіх беларусаў, старшыні Таварыства беларускай школы ў Літве, якому споўнілася 75 гадоў. Алег Аблажэй знаёміць чытача са сваімі "Броўнаўскімі думкамі", дзеці з задавальненнем пачытаюць вершы і пацешкі ў "Дзіцячым куточку".**

**Другі нумар "Руні", красавіцкі, адкрываецца артыкулам прысвечаным чарнобыльскай трагедыі. Змешчаны там і шматлікія навіны з беларускага культурнага і палітычнага жыцця, у тым ліку пра святкаванне ўгодкаў БНР, дзейнасць беларускага культурнага таварыства горада Вісагінас, анонс гастроляў беларускага паэтычнага тэатра аднаго актора "Зьніч" з Мінска ды іншае.**

**Падпісацца на газету можна не толькі ў Літве, але і за яе межамі. Для гэтага трэба пералічыць невялікую суму грошай (5—10 долараў ЗША) на рахунак N 9121 LKB "HERMIS" в/к 260101730. Адрас рэдакцыі — 2001, Вільня, Жыгімонта, 12-3, тэлефон — 61-65-32. Думаецца, выдаўцы "Руні" будуць радыя падтрымцы сваёй высакароднай справы і супрацоўніцтву. Пажадаем жа газеце доўгага і плённага жыцця.**

**Н. К.**

## Віцебскі "Квадрат"



**Дзесяць гадоў назад адзінаццаць віцебскіх мастакоў арганізавалі творчае аб'яднанне "Квадрат". У яго склад увайшлі Аляксандр Салаўёў, Аляксандр Дасужаў, Віктар Шылко, Аляксандр Сляноў, Аляксандр Малей, Таццяна і Юры Рудэнка і іншыя.**

**Днямі ў выставачнай зале Саюза мастакоў у Віцебску адкрылася юбілейная выстава членаў аб'яднання.**

*На здымку: юбіляры на адкрыцці выставы.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

ЗГАДКІ

# Без чалавечнасці не будзе вечнасці

"Не з багоў мы — мы з Бягомля", — следам за Піменам Панчанкам і мне хацелася б паўтарыць, разам з ім загаварыць, "На карце ён — Бягомль, а людзі звалі Бегамлем: сяліліся ў глухіх лясах халопы беглыя". Сапраўды, калі хто-небудзь з аднавяскоўцаў (а я пражыла амаль усё сваё дзяцінства на Мсціжы, што за дваццаць кіламетраў ад Бягомля) ехаў у мястэчка, то казаў: "У Бегамля паеду" ці "Еду з Бегамля". І не толькі таму мне такая блізкая паэзія Пімена Емяльянавіча, што ў яго вершах чую блізкія назвы: Залессе, Плёсы, Крэва, Ваўча і Ваўкавыск, свой Мсціж і Арахі, якія — "трубяць боўдзілы" — "здаваць пара ў архіў", што чую гутарку майго краю, а яшчэ і таму, што паэзія яго прыцягальная сваёй шчырасцю, жыццялюбствам і абвостраным пачуццём справядлівасці чалавека, у якога за ўсё баліць душа і сэрца, які гатовы ўсе беды і няшчасці "закапаць у сваім сэрцы старанна", каб "толькі жонка і дзеці не перажывалі"...

На ўроках я выкарыстоўваю, каб паказаць і даказаць велічнасць і чалавечнасць паэта П. Панчанкі і яго паэзіі верш "Сэрца і крыж", які расказвае пра доктара-дзівака, што лячыў людзей лічы задарма, "дзе іншы ўрваў бы чырвонец, ён браў сарамліва пятак"... Любіў доктар, як і П. Панчанка, людзей. Пасля смерці папрасіў пахаваць яго ля вёскі. Аднавяскоўцы так і зрабілі. "І дзіва!

***З вясны той журботнай***
***Пажары у вёсцы звяліся"...***
***...І мала хто знаў у народзе,***
***Што крыж навальнічныя беды***
***Ад стрэх саламяных адводзіў:***
***Што мёртвае сэрца***
***Людзей, як жывое, любіла,***
***Агонь на сябе выклікала,***
***Маланкі ў магілу лавіла.***

Чытаючы апошнія радкі, я часта бачу, як вучні ледзь стрымліваюць слёзы, доўга сядзяць у задуменні, гатовыя нізка пакланіцца і доктару, і П. Панчанку, магчыма, перабіраюць у памяці, ці ёсць сярод іх знаёмых і блізкіх такія людзі, і ці змогуць яны самі, вырасшы, стаць такімі вось добрымі і шчырымі да астатку.

Пачынаючы з 1988 года, выкарыстоўваю на ўроках яшчэ адну маленькую, але крыштальна-чыстую крынічку — гэта віншоўку ад П. Панчанкі з нагоды жаночага свята 8 Сакавіка.

А пачалося ўсё вельмі даўно. Яшчэ ў школе завуч Ада Восіпаўна часта хвалілася тым, што сядзела некалі на адной лаўцы з "самім" Піменам Панчанкам, якога яны, дзеці, звалі тады проста Пімкам. Але да нядаўняга часу ні ў адной крыніцы (ці то ў часопісе, ці ў падручніку) пра тое, што П. Панчанка жыў на Мсціжы, не ўспаміналася. "Закончыў Бягомльскую сямігодку", — і ўсё.

І я, нарэшце, рашылася. Напісала, хвалюючыся, вядома, ліст паэту з просьбай задаволіць маю цікаўнасць, а таксама — разагнаць сумненні, праўда ці не, што на Мсціжы жыў, хадзіў па тых жа сцежках, што і я, Пімен Панчанка.

І што вы думаеце?

Толькі сапраўдны, адказны і вельмі добры чалавек, нягледзячы на сваю занятасць, мог напісаць мне (ну хто я яму? — унучка ўжо даўно забытых ім людзей?). Віншуючы са святам, ён напісаў падрабязна сваю біяграфію, пацвердзіўшы, што сапраўды ў 1931—1932 гадах вучыўся ў нашай школе, і што менавіта адсюль быў дэлегаваны на 1-ы злёт піянераў Беларусі. Вучыўся толькі на выдатна (тут я падкрэслена спыняю ўвагу вучняў). І не менш прыемна было прачытаць добрыя словы знакамітага паэта ў адрас маёй сціплай творчасці, што ў мяне "сапраўды ёсць паэтычныя здольнасці". Радасці і шчасцю майму не было межаў.

А праз два дні паштальён мне прынёс бандэроль. Па знаёмым почырку я не адразу паверыла, што гэта ад Пімена Панчанкі, пакуль не распакавала і не ўбачыла адзін з яго новых зборнікаў з цудоўным надпісам: "дарагой мсціжанцы". З гэтага часу я пачала прывыкаць да шчымліва-радаснага імені "мсціжанка", або "сяброўка па Мсціжы і паэзіі", бо роўна праз год 8 Сакавіка я атрымала яшчэ адну бандэроль са зборнікам "Горкі жолуд" — "ад усяго сэрца" такога славутага і добрага чалавека.

Вось прыблізна такі аповед пра чалавечнасць, шчырасць і бескарыслівасць, перамяжоўваючы вершамі, я вяду на ўроках пра Пімена Панчанку. А незадоўга да яго смерці прызналася вучням, што дужа хацелася б пабачыцца з ім, пакуль не позна, падзякаваць яму, што ён ёсць такі на нашай Зямлі, паглядзець у яго вочы, паціснуць руку ў знак сяброўства і — зноў жа — удзячнасці.

А вучні — яны заўсёды смялейшыя і непасрэдныя! — падштурхнулі мяне на паездку ў бліжэйшыя выхадныя. Не перадаць усіх пачуццяў па дарозе ў Мінск, на вуліцу Пуліхава. Паехалі са мной дзве дзяўчынкі з адзінаццатага класа. Адчыніла дзверы жонка паэта Зоя Кірылаўна. Яна ў гэты дзень спяшалася па нейкіх сваіх неадкладных справах: але затрымалася, гасцінна запрасіла, гукнуўшы ў суседні пакой: "Емяльянавіч, да цябе госці!" Аперадзіўшы нас, дапамагла яму сесці на канапе (дужа хварэў апошнія гады), сказаўшы, хто да

КНІГАПІС

# ...Пакінем коскі, пагубляем словы...

Мастацтва — гэта, безумоўна, праца, але вынік яе — свята: калі, паводле выслоўя Надзеі Артымовіч, "ніхто не знае цаны дараванай кветкі", ні той, хто дорыць, ні той, хто прымае. Дасканаласць — гэта поўня якасці, мяжа яе знікнення, "скону", і пярэйсця ў якасць іншую — танчэйшую (духоўную). У мастацтве сімвалам дасканаласці ёсць народная песня, з ейнаю нязмушана-гожаю знешняю прастатою і выключнаю, атамнаю дакладнасцю ўнутранай будовы: паспрабуй выкінь, ці дадай, ці перайнач хоць адзін гук. Шчасны між паэтаў, хто раз-пораз патрапляе ўзбіцца на блізкую хвалю.

***Пакладу у кошык***
***велікодных яек,***
***завяжу хусцінкай***
***і вячыстым ранкам,***
***яснаю заранкай***
***панясу да царквы.***

У гэтых простых радках Анжаліны Дабравольскай пяюць залатыя званы, і мастак сапраўды "непатрэбны карціне" — мастацтва быццам знікае, празрысцее да незаўважнасці і само перастае сябе заўважаць, саступаючы месца святу.

Паэзія Анжаліны, сабраная ў кнізе "Пазамежнасць", выдадзенай у Полацку, — зусім не тая прыгода, калі вершы з долу, з абы-якога "смецця", "не ведаючы сораму, растуць". Яна пачуваецца "дома" ў вобразе дрэва, якое роніць упару насенне й лісцё, "рассявае сябе па каліву", і давярае толькі ўзрушэнню, атрыманаму звыш, — не так уласнаму распростанаму голасу, як провідам спасланаму досведу; ёй хочацца, каб ейным спяленнем і перамяненнем кіраваў вышэйшы пачатак: "Божа, зрабі мяне зернем".

Даспелае, зерне выпадае з калыскі свайго перад-быцця і ляціць долу, назіраючы "перакулены" свет:

***карону — у зямлю***
***карэнне — у неба***

— "і мостам стаць між небам і зямлёю ...так дрэва — ўгору коранем — расце". Але ТАК менавіта й РАСЦЕ — угору коранем, каронаю ў зямлю — нябесны дуб у Выраю Вялесавай Кнігі, пракаветнае Дрэва Жыцця. Ці не да я г о прыпадабніцца жадае сыну юная маці ў цытаваных радках (прысвечаных Сыну)?..

Сапраўды, апроч улюбёных — "бясхібных" — "абрысаў дрэў на аркушы зямлі", рэдка якія знешнія праявы завалодваюць творчаю ўвагаю паэткі: "Я на аблоках погляд запыню"... Яе прыцягвае тое, што адбываецца "на мяжы існага і ўяўнага", — там, дзе, раздорваючы промні й пялёсткі, аблятаюць і ўспыхваюць ад сімвалічнага "Квету ліхтарні" начныя суквецці мрояў. Прастору гэтай "мяжы" насяляюць істоты і рэчы, так ці йначай прычынныя да "гучання і свячэння" (В. Седакова). Ранкам тут "пагасне ліхтар, але "вецер яму зайграе", а "усход падпяе"... — і па ланцужку "прыступак раяля", "клапанаў флейты", "трубаў аргана", "гукаў", "хваляў", нябесных валокнаў, трымаючы таямнічы келіх, нехта лёгкі й неназваны басанож узыдзе "у кола Бэтлеемскае зоркі". Відма ("Неслі келіх") струменіцца вакол узыходнага руху, на вастрыі якога — імклівая лёткая сутнасць, што стаецца сваёю ў вышах: свята? спеў? душа?.. а можа — сапраўдны анёл?..

Позірк ляціць туды, дзе Велікодную "яснаю заранкай"

***У зіхатлівым ззянні***
***па-над купаламі***
***галубы віюцца.***

— "І адхланне сэрцу ў прадчуванні смерці — Хрыстос уваскрэсе!"

Адкуль жа ў цябе, яска, гэтае "прадчуванне"?.. І адкуль табе ведама, што "Смерць — яснавокая панна, ...у вертаградзе райскім між птахаў-духаў, вучыць іх дзіўным спевам ды лашчыць крылы, гоіць расой чысцюткай ды ісціны зернем, выпраўляціме ў вырай"?..

Тут мы кранаемся п а з а м е ж н а г а. *Дар пазамежны* (па-санскрыцку *Dana paramita*; гэта загаловак цэнтральнага раздзела кніжкі) азначае, трэба думаць, не толькі дар паэтычны, і не толькі дар жыцця, але, верагодна, і той надзвычайны досвед, пра які выказвалася здагадка вышэй. І зноў жа, выпадае адно здагадвацца, якім коштам той досвед набыты — хай сабе й завецца ён "дарам". Ці не надмерналю напругаю чалавечага трывання дастаўся ён у час, калі "за шпітальнай фіранкай гайдаліся дрэвы", час, пра які так і сказана:

***Я была па-за светам,***
***па-за сном, па-за вамі...***

— у месцы, якое падалося "тэатрам абсурду" з дэкарацыяй знаёмага сквера ("Балада сквера"), дзе адна праз адну праступілі нятоесныя явы: страчанай надзеі (учора) і надзеі шуканае (заўчора), а таксама цяжка-ўсвядомнага сёння, дзе між нібыта ўсё тых самых "Бэзу і клёнаў, як і мы, шчэ зялёных, абламанай галінкай я знайшла цябе, сынку".

Ясна, што лірычнаму "я" паэткі выпала вельмі моцна параніцца аб "крышталёвыя краты" гэтага свету, якія міжволі давялося разбіць — каб апынуцца выштурхнутым са свае звыклай абалонкі — у абсягі духу. Тым болей уражвае, што дотык да "пазамежнага" не адкідае ў вершах ні ценю жаху альбо пратэсту. Наадварот. Вярнуўшыся ў свой дзень зямны, яна згадвае валадарства пяшчоты, бяздоннага святла і кахання, адносна якога тутэйшае ўцелясненне бачыцца "хвілінным супынкам", дзе можна хіба "перавесці дыханне, узяць шчырую ноту". З "пазасветным" досведам

## Паэт сталай думкі і маладой душы

Днямі ў рэспубліканскім Таварystве дружбы і культурнай сувязі з замежжам адбылося ўрачыстае ўшанаванне паэта Сяргея Грахоўскага ў сувязі з 70-годдзем яго творчай дзейнасці. У святочна афармленай зале сабраліся замежныя госці і прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі: пісьменнікі, навукоўцы, мастакі, музыканты, сябры культурна-асветніцкіх суполак, студэнты. Вядучая вечара паэтэса Раіса Баравікова адзначыла, што з імем Грахоўскага звязаны адметныя і яркія старонкі нашай паэзіі, а многія яго творы ўвайшлі ў залаты фонд беларускай літаратуры. Першыя вершы Сяргей Іванавіч надрукаваў у 1926 годзе, а першую кнігу пад сімвалічнай назвай "Дзень нараджэння" выдаў у 1958 годзе, ужо пасля шматгадовай адсидкі ў сталінскім ГУЛАГу, сваёй рэабілітацыі і вяртання ў Мінск.

Творчасць Грахоўскага жанрава разнастайная і шматгранная. Ён піша вершы, паэмы, апавяданні, аповесці, эсэ, успаміны, крытычныя артыкулы, плённа працуе ў галіне перакладу, папаўняючы скарбніцу роднай літаратуры перакладамі паэзіі Блока, Пушкіна, Райніса, Лесі Украінкі, сучасных рускіх, украінскіх і замежных паэтаў. Міхаіл Дудзінцаў яшчэ ў 1983 годзе з удзячнасцю пісаў пра Грахоўскага: "У вогнішчы нашага неадольнага братэрства ёсць і яго агонь, яго цяпло і свет" ("Литературная газета", N 40, 5 кастрычніка, 1983). Таму невыпадкова лейтматывам вечара стала думка, што Грахоўскі сваёй творчасцю ўмацоўвае дружбу паміж народамі, у першую чаргу суседнімі, за што яго ведаюць і любяць не толькі на радзіме, але і ў Расіі, на Украіне, у Літве і Латвіі, у Польшчы і Балгарыі.

Юбіляра віталі народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль, саветнікі пасольстваў на Беларусі: балгарскага — Найдзен Вылчаў, расійскага — Сяргей Жытнікаў, украінскага — Тарас Асаўленка, а таксама намеснік міністра культуры РБ Валеры Гедройц, член-карэспандэнт АН Беларусі Генадзь Рымскі, заслужаны мастак Беларусі Яўген Ціхановіч, народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч, заслужаная артыстка Беларусі Ірына Шуміліна, старшыня прэзідыума Беларускага таварыства дружбы Арсен Ваніцкі і іншыя.

Янка Брыль прыгадаў сорак гадоў свайго знаёмства з Сяргеем Грахоўскім, якое спакваля пераходзіла ў сяброўства і якое ўмацоўвалі сустрэчы ў рэдакцыі "Вясёлкі" і падарожжы па Сібіры ў часе так званай хрушчоўскай "адлігі", калі людзі зноў пачыналі давяраць адзін аднаму.

Літаратурныя падарункі Сяргей Іванавіч атрымаў ад Н. Вылчава (ім стаў пераклад на балгарскую мову яго верша "Недапісанае") і ад Г. Рымскага (пераклад твораў паэта на рускую мову). Музычныя падарункі прагучалі ў выкананні У. Пузыні (дудка), І. Шумілінай (фартэпіяна) і Я. Скрыгана, унука вядомага пісьменніка (гітара). Я. Ціхановіч падарыў паэту свой мастацкі твор, а М. Захарэвіч прачытала яму эцюд "Слёзы".

Прагучалі таксама прысвечаныя Сяргею Грахоўскаму творы Пімена Панчанкі, Яна Скрыгана, Святланы Басуматравай, Петруся Макаля.

Студэнты Беларускай мастацкай акадэміі прачыталі вершы С. Грахоўскага і паказалі інсцэніроўку старой шатландскай песні ў яго перакладзе — "Апошні кароль", якая была ўспрынята з разуменнем і выклікала буру авацый:

*Скачы, халоп, спявай, халоп,*
*На радасць каралю,*
*А калі не — падстаўляй лоб*
*Пад кулю ці пятлю.*

Юбіляр прыкметна хваляваўся. Ён падзякаваў арганізатарам і ўдзельнікам імпрэзы за сяброўскую падтрымку і прачытаў свае новыя творы.

Ірына КРЭНЬ

## Літаратурная сустрэча

адбылася ў чытальнай зале бібліятэкі Магілёўскага будаўнічага каледжа. Да чытачоў завіталі сакратар абласной пісьменніцкай арганізацыі Уладзімір Дуктаў і паэт Віктар Кунцэвіч. Яны расказалі пра асаблівасці літаратурнага працэсу на Магілёўшчыне, адказалі на пытанні прысутных. В. Кунцэвіч прачытаў вершы са сваёй кніжкі "Зваротныя масты", якая выйшла летась у выдавецтве "Полымя". Арганізавала сустрэчу выкладчыца беларускай мовы і літаратуры Вольга Казакова і супрацоўніцы бібліятэкі каледжа.

У. САСНОЎКІН

ПАЭЗІЯ

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ



## "Як сто гадоў назад..."

•

*Час бязлітасны, злосны і горкі,*
*Хоць не зніклі паэты і зоркі.*
*Дык чаму ж іх не грэе святло?*
*Можа, сталася тое прычынай,*
*Што на небе начным*
*аблачынай*
*Шчасце раптам навек адплыло?*
*Ды не можа ніколі прапасці*
*Чалавечае простае шчасце.*
*І ніхто не сумее спыніць*
*Песню дрэваў,*
*птушыных гаворак,*
*Адзінокіх паэтаў і зорак,*
*І лістоты, што з дрэваў ляціць.*

•

*Струну крану рукой пяшчотнай,*
*І ёй, нарэшце, не зманю.*
*Каб адгукнуўся светлай нотай*
*І чыстай дзень, крану струну.*
*Як гэта робіцца ў музыкаў!*
*Ты толькі пальцам варухнеш,*
*І поўны свет чароўных зыкаў...*
*А мне струна: — Яшчэ кранеш?..*
*Баюся... І рука нямее:*
*А што, калі адчуе фальш,*
*Калі не выб'ецца надзея,*
*Нібы травінка праз асфальт?*
*Струна бязлітасна чакае,*
*І быццам у апошні раз,*
*Яе нясмела я кранаю*
*І моўчкі слухаю адказ.*

•

*Зноў адыходзіць мода. А за ёй*
*І ісціны старыя адыходзяць.*
*І ўжо былы кумір цяпер не ў модзе,*
*А чэлядзь зноў шукае бераг свой.*
*Ах, мода! Памяняюцца сцягі,*
*Апраткі і гарачыя прамовы...*
*А за акном у полі вечаровым*
*Як сто гадоў назад, прыходзіць цуд*
*Ад пацалунку ў сцішаныя губы,*
*Як сто гадоў назад, мой родны кут*
*Камусьці дарагі, камусьці любы.*
*Як сто гадоў назад... І кожны дзень*
*І кожны выбрык моды*
*хуткаплынный,*
*Нібы кругі на сцішанай вадзе,*
*ў якую мы усе ўвайсці павінны.*

•

*Чырвонай гліны пад рукой цяпло —*
*Нібыта лета праз мяне прайшло,*
*Нібыта восень са збанка я п'ю,*
*І з ёй надзею новую сваю.*
*І чую поціск незнаёмых рук,*
*Драўляных колаў шорганне аб брук.*
*І круг ганчарны. І стагоддзяў круг.*

•

*Я пакідаю вулкі і дамы,*
*Трамваі і праспекты пакідаю,*
*Бо ёсць бярозы, поўныя адчаю,*
*Што мерзнуць у палях сярод зімы.*
*Я хукаю азябла ў кулакі,*
*Прастую па лясах і бездарожжы,*
*Каб паглядзець аленяў асцярожных,*
*Што зніклі зноў на тым баку ракі.*
*Я пакідаю ваш абжыты свет,*
*Дзе цёпла так, што ўжо, здаецца, душна,*
*Дзе ёсць усё: і здрада, і двурушша,*
*Дзе б'юцца за чыны і кабінет.*
*Са скрухаю пачую, як рыпяць*
*За мною паўадчыненыя дзверы.*
*І зноў жыццё так хочацца пачаць,*
*Нібы на белым ватмане паперы.*

•

*Над халоднай зямлёй*
*у празрыстай імжы*
*Нейкі дзіўны агеньчык мігціць*
*і дрыжыць.*
*То ён далей, то бліжай,*
*то побач нібы.*
*І яго не заўважыць хіба што сляпы.*
*Хто ж адтуль, з адзіноты,*
*зноў знак падае,*
*Хто сігналы пяшчоты*
*мне выслаў свае?*
*Значыць, нехта жадае,*
*каб я не зблукаў,*
*Каб сцяжынку сваю*
*я праз ноч адшукаў.*

*Каб мяне не скрылі ні морак ні зло,*
*Каб прарваўся праз цемру туды,*
*дзе святло.*

•

Галіне Булыцы

*Ланцугі кавалі кавалі,*
*Ланцугоў заўсёды не хапала.*
*І агнём гарачага металу*
*Лёсы чалавечыя плылі.*
*З іх не кожны свой пакінуў след,*
*Знікаю на вечным небе згінуў.*
*І стаім мы сёння на руінах*
*Ланцугоў, нібы чужых планет.*

•

*На тонкай нітачцы паміж*
*Сусветным злом і дабрынёю*
*Трымаю слабаю рукою*
*Пахілены самотны крыж.*

*Пісьмёнаў вечныя значкі,*
*Як кладкі праз аблог залеўны.*
*І паглядае з-пад рукі*
*Сусвет, спахмураны і гнеўны.*

*І што казаць, пра што крычаць,*
*Дзе выйсце з суму і адчаю?*
*Я крыж трымаю. І пячаць*
*Маўчання вусны мне сціскае.*

•

*Я ў ветра хацеў спытаць,*
*Як ён пазнае мяне*
*Ля сцішанага акна*
*У восеньскай гамане,*
*Чаму ён пад грозны свіст,*
*Пад хмараў уладны ўзмах*
*Уносіць кляновы ліст,*
*Што быў у мяне ў руках,*
*Чаму ён прадзьме наскрозь*
*І выстудзіць мне душу,*
*І ўсё, чым на свеце ёсць,*
*І ўсё што ў сабе нашу?*

•

*Агеньчык дрогкі і ў цябе ў руках,*
*Дзе воск і ладан, дзе спакой і спевы.*
*Ён праз стагоддзі, морак і залевы*
*Не згаснуў і не перайшоў у прах.*

*У нас дзве свечкі. Я тваю здаля*
*Убачыў, каб аднойчы запаліцца,*
*Каб у імкненні радасным адкрыцца,*
*Каб зноў намацаць*
*пакручасты шлях.*

*Гараць дзве свечкі.*
*Быццам дзве сястры,*
*Два лёсы, дзве душы і дзве пяшчоты,*
*Дзве зоркі ў небе і дзве адзіноты,*
*І дзве сасонкі ў залатым бары.*

З ПОШТЫ

Анатоль ШУШКО



## Яшчэ раз пра веру

Леаніду Галубовічу

*Няхай прамоўклі дні і вечары,*
*І досвіткі — прадвесніхі світанняў.*
*А ты гарыш, агонь святла, гарыш*
*Шчымлівай узаемнасцю жаданняў.*

*Не чорнае усходу пачале.*
*Не скрушнае трываласці аснова.*
*З нас кожнаму належыць адбалець*
*Хваробай непрамоўленага слова.*

*Бо ты гарыш, агонь жыцця, гарыш:*
*І споведзю, што мкне да ратавання,*
*І ведамым, што крушацца муры*
*Няверʼя узаемнасцю жаданняў.*

## Успаміну

*Не развееш усё, што язмінам цвіло.*
*Сэрцу соладка, ясна, трывожна.*
*Не аспрэчыш таго, што жывое,*
*хоць было*
*У табе, успамін. Падарожны!*
*Ты з усім, як вясна,*
*праз мінулае мкнеш.*
*Непаўторнае сонца для ЗАЎТРА.*
*Не забудзеш, не здрадзіш,*
*не праміне́ш...*
*О, быццё майго крытык і аўтар.*

## Матулін запавет

*Сцеражы сваё шчасце,*
*бо яно не пажыткі.*
*Спатыкнуцца і ўпасці*
*лепш на сцежцы, што ў жыцце.*

*З ёй свядома ты дома.*
*Для блуканняў пазбыты.*
*Найраднейшы, вядома.*
*Па-бацькоўску — забыты.*

*Як гарлачык чакаеш,*
*хоць душа не пустая,*
*напаўнення. Не Каін —*
*Брата ў кожным вітаеш.*

*Сцеражы сваё шчасце.*
*Беражы сваю сцежку.*
*Спатыкнуцца і ўпасці*
*не зважы на узмежку.*

•

*— З табою поплеч дзень пры дні.*
*Няўжо табе не надакучыў?*
*— Ты, як ручай, к рацэ прынік.*
*Ты — хваля, што цалуе кручы.*

*— З табою поплеч дзень пры дні.*
*І праганяць мяне не станеш?*
*— Спляліся нашы карані.*
*І ўжо расплесціся не ў стане.*

## Імпрэсія

*Гэтулькі ўва мне святла,*
*Любая,*
*Што забыў, як ты была*
*Згубаю.*

*Гэтулькі ўва мне вясны —*
*Крэўнасці, —*
*Што забыў пра гора-сны*
*Рэўнасці.*

*Гэтулькі ўва мне цяпла*
*Роднага,*
*Што забыў, як ты знайшла*
*Роўнага.*

*Рознае у нас было,*
*Ветлая,*
*Каб аднойчы, ды знайшло, —*
*Светлае.*

ПРОЗА

# СКЕРЦА ДЛЯ ПЕРАБІТЫХ ПАЛЬЦАЎ

Галіна БАГДАНАВА



РОСПАЧ

ГЭТЫ ДАЎНІ ўспамін спадарожнічаў ёй з самага маленства. Як жаданы сон. Як мроя. Як яе ўласны праобраз зямнога раю. Колькі разоў, калі клалася спаць, Алена Карніцкая заклікала яго, той вечар, тую ноч, тую музыку...

Месяц яшчэ не выплыў і ў цемры жылі толькі гукі... Хрумкае, точыць хату шашаль. Цікаюць за сцяною ля печы ходзікі. А яна ляжыць у ложку пры вакне і слухае. Вось рыпнулі палавіцы, шафа. Гэта дзед. Зараз над фіранкамі трывожным пытальнікам завісне месяц і ён зайграе...

Скрыпка імкліва ўздыхнула і аддалася... І смычок вывеў з ейных прагных, нацятых у чаканні жаданага дотыку струнаў адну-адзіную, самую высокую ноту... І гэтая нота стала сцяжынкаю ў рай, у мелодыю, поўную чакання, тугі, невыказнае пяшчоты і ласкі...

І столь растала. І яна ўбачыла неба, затканае безліччу зорак, якія падміргвалі, гаманілі, клікалі, узносілі яе да нябёсаў... У той глыбіні, у той вышыні не было болю, тугі, роспачы. Там панавала месячная, сонечная светласць...

— Інтэлігентнага чалавека заўжды выдаюць рукі, — па сваёй настаўніцкай звычцы не раз, і не два, шмат разоў паўтараў ёй дзед, ейны адзіны, любы дзед Ларывон, — Рукі... Рухомыя, імклівыя, лёгкія.. Яны — знак вечнае, несыходнае прагі пазнання, вечнае прагі дасканаласці. Кім бы ні быў чалавек, дзе б ні жыў, дзе б ні працаваў, колькі б яму ні было гадоў, ніхто ніколі не зможа спыніць яго на гэтым шляху...

У дзеда Ларывона былі шурпатыя, змазоленыя, але сапраўды вельмі лёгкія, інтэлігентныя рукі... Як хацелася б зараз прыпасці да іх, пацалаваць, вярнуць тую музыку...

Дзед Ларывон настаўнічаў яшчэ да вайны. Вёў літаратуру і спевы, а потым усіх, хто хацеў, вучыў іграць на скрыпачцы. А яшчэ ён марыў, марыў пра той час, калі ягоную скрыпачку, і ягоны смычок возьме ў рукі сын, Сымонка, якому ў 41-ым якраз ішоў пяты гадок. Гэтая ягоная мара, гэтая ягоная светлая мроя трымала яго, ратавала і калі ў першыя ж дні трапіў у акружэнне, а потым у нямецкі палон, ратавала і ў нямецкім, і ў савецкім лагеры... Ратавала ў гнойную, смярдзючую спёку, і ў слотнае восеньскае разводдзе, і ў скрушны, пякучы мароз... Ён марыў пра тое, як будзе вучыць Сымонку іграць нават тады, калі зразумеў, што адмарозіў сабе пальцы... "Тое, што я ўжо не сыграю, сыграе мой сын... Мой Сымонка... Як яны там з Маняй?.. Гаруюць...", — думаў ён і зноў марыў...

Маня не прадала, схавала ад немцаў, зберагла ягоную скрыпку ў высланым пунсовым аксамітам футарале... А Сымонку... Сымонкавы пальчыкі не зберагла... У яе быў урок... Апошні ўрок апошняй чвэрці першай мірнай вясны. І ўсміхаліся, убраныя шчодраю квеценню сады... Яна адпусціла Сымонку, і ён збег з суседскімі хлапчукамі да рэчкі. Там у сваёй, толькі ім вядомай хованцы яны раскруцілі знойдзеную недзе ў полі, пакінутую, падораную ім вайною страшную, д'ябальскую цацку...

Бабахнула так, што не пачулі нават як яны крычалі. Суседскіх хлапчукоў — насмерць. А ў Сымонкі не стала пальчыкаў. Трох на левай і аднаго на правай руцэ. Ён так і не навучыўся прыгожа пісаць.

Маня не перажыла. Дачакалася свайго Ларывона і згасла. А Сымон, хоць і выўчыўся на электрыка, і жаніўся, і дачка ў яго нарадзілася, яна, Алена нарадзілася, так і не змог знайсці сабе месца... Усё некуды рваўся, ляцеў. Ці то прыгнятала яго віна перад суседкаю: яе ж сыночкі загінулі, а ён вось жывы... Ці то перад бацькам, які пісаў яму: "Прыеду, навучу іграць на скрыпачцы"... А можа гэта была ўсё тая ж невыказная прага пазнання, прага дасканаласці? Завербаваўся, з'ехаў разам з жонкаю на Сахалін. А малую Аленку кінулі з дзедам.

Алена памятала іх вельмі цьмяна. І маму, і бацьку. І фотакарткі засталіся такія ж пажоўклыя, цьмяныя, з абадранымі (ці гэта мышы іх абгрызлі?) краямі. Вось бацька, у пінжаку і чобатах, сядзіць ля плота, схрысціўшы на грудзях рукі, так, што пальцаў зусім не відаць. А побач мама, яшчэ з касою, у стракатай квяцістай сукенцы і чорненькіх туфліках на абцасах. У яе рукі вольныя, прыгожыя... Яны прыязджалі з Сахаліна. Прывезлі цэлы слоік чырвонай ікры і кляшню краба...

А потым у Аленкі застаўся толькі дзед Ларывон і ягоная музыка. Ён перажываў, пакутаваў з-за таго, што не можа іграць так, як іграў да вайны. Адмарожаныя пальцы не слухаліся, ледзь даганялі мелодыю. І ён браў скрыпку толькі па начах, калі, як яму здавалася, ніхто яго не чуе. І хоць Аленка яго прасіла, так і не навучыў яе іграць...

Калі дзед памёр, яна, ужо студэнтка філфака, хацела пакласці скрыпку разам з ім у магілу, але нешта яе тады стрымала, а можа, проста рабіць гэта на людзях пасаромелася. І карычневы футарал, высланы пунсовым аксамітам, здавалася, назаўжды стаў для дзедавай скрыпкі труною. Памёр гаспадар і памерла ягоная музыка. Тая самая, з якой пачыналася ейнае, такое жаданае, мройнае бяссонне... Яна везла гэтую маленькую карычневую труну ў Мінск, у інтэрнат, дзе яны жылі з мужам, і плакала ад уласнага бяссілля, ад бяссілля ажывіць дзедаву музыку...

У Аленінага мужа, хоць ён вучыўся на фізіка, таксама былі вельмі лёгкія, музычныя пальцы. І не мог жа ён з такімі пальцамі жыць з ёю ў інтэрнаце... І яна ўспрыняла як наканаванае тое, што аднойчы ён перайшоў жыць да сваёй зусім юнай яшчэ лабаранткі, якая ў свой час скончыла музычную школу і па вечарах іграла яму Шапэна. У яе, Алены, застаўся сын, у гонар дзеда названы Ларыкам, і маленькая, высланая пунсовым аксамітам труна з дзедавай скрыпачкай, з дзедавай музыкай.

Яны з Ларыкам дачакаліся і атрымалі нарэшце сваю ўласную, цэлыя два пакоі, кватэру. На самай ускраіне горада, з відам на ахуганыя параю трубы і голае поле, але ж сваю, уласную... Алена надта не перажывала ад таго, што ў іх з Ларыкам была ўсяго адна канапа, раскладушка ды стол з зэдлікамі. Кнігі яна расставіла ў радок уздоўж сцен. Для посуду прынесла некалькі каробак з-пад бананаў. Адзежа змяшчалася ў шафах, якія былі ў калідоры. Што ж паробіш, калі за тыя грошы, якія бацькі калісьці, прыехаўшы з Сахаліна, паклалі ёй на кніжку, цяпер можна было купіць хіба што "Снікерс". Яна любіла сваю работу, любіла студэнтаў, якім натхнёна расказвала пра Максіма Гарэцкага і Алеся Гаруна, па творчасці якога і абараніла кандыдацкую дысертацыю... Яна, вядома, пакутавала ад таго, што не можа як след уладкаваць свой побыт, купіць сабе і Ларыку патрэбныя кнігі... Але з ёю жыло, яе жывіла тое даўняе мройнае бяссонне. І яна чамусьці верыла, што яно калі-небудзь можа паўтарыцца, што скрыпка, а з ёю і музыка паўстануць з труны...

Яна верыла ў гэта, хоць у новым доме панавалі зусім іншыя гукі. Спачатку суседзі зверху, усе, паверх за паверхам, клалі паркет, свідравалі сцены, шклілі балконы, потым пачалі выбіваць на кухні дзіркі пад халадзільнікі... І манатоннае пастукванне ды дрынканне змянілася гучнымі аўтаматнымі чэргамі, ад якіх дрыжэлі сцены і вокны, і ў вентыляцыйны люк ляцелі цэмент і нават бетон... Аднойчы яна ледзь паспела адцягнуць, захінуць Ларыка — вялізны кавалак выпаў разам з вырванаю жыўцом сеткаю вентыляцыі і бумкнуў проста ў рукамыйнік... Было ўражанне, што жывеш на нейкай вечнай будоўлі, і людзі ні ўночы, ні ўдзень не прагнуць цішыні, не прагнуць музыкі, а гэтым дрынчаннем і грукатам, як алкаголем ці грубым рокам прагнуць заглушыць свае душы. Да яе таксама заходзілі майстры, але яна на іхнія прапановы толькі паціскала плячыма. На кухні ж, калі суседзі сваімі халадзільнікамі перакрылі вентыляцыю, стала не прадыхнуць. Калі нехта смажыў рыбу, ці пёк бліны, увесь дым расцякаўся па іхняй кватэры, вокны пацелі, і нават шпалеры адставалі ад сцен. А ў нішах на халадзільнікі ўжо паставілі відэамагнітафоны, якія зранку да позняй ночы паказвалі адны і тыя ж фільмы. Шпіён прыходзіў да прастытуткі. І яна гнюсавым голасам перакладчыка разоў пяць паўтарала: "Не-ет. Я туда не пойду-у..."

Ларык спаў. А яна мусіла слухаць п'яную лаянку і сабачы брэх знізу, потым пачыналі падаць паліцы ці тумбачкі зверху, і дзіця надрыўна крычала: "Ма-маа!", а п'яны мужчына патрабаваў: "Но-ож! Прынясі, дзетачка, нож!" Назаўтра ўночы пэўна ж той самы мужчына дрыляваў сцяну і вешаў паліцы на месца. А ўдзень усё глушыў суперметалік... Потым хтосьці купіў дрэваапрацоўчы станок і ўжо, здавалася, нават сцены пачалі курчыцца ў сутаргах...

Але Алена ўжо не зважала на ўсё гэта, бо яе Ларыка, хоць ён яшчэ і хадзіў у дзіцячы садок, прынялі ў музычную школу. І дзедава скрыпачка ўсё ж паўстала з труны, са свайго высланага аксамітам ложка. І пад імклівымі Ларыкавымі пальчыкамі мелодыі, адна прыгажэй за другую, быццам самі зляталі са смычка на струны, са струнаў на смычок... І зноў скрыпачка не магла ніяк нацешыцца, наталіцца жаданым рэхам... "У вас незвычайна адораны хлопчык..." — сказаў Алене сівы, задумлівы скрыпач і параіў паступаць у музычны ліцэй.

І вось аднойчы, калі Ларык са сваёй, з дзедавай скрыпачкай вітаў сонца, што выплывала з-за лесу, самай светлай і чыстай мелодыяй, і Алена пазнала яе, гэтую мелодыю, пазнала тую сваю, самую жаданую сцяжынку ў рай, у дзверы пазванілі.

Гэта быў сусед зверху. Яшчэ даволі малады, але ўжо нейкі азызлы, зарослы шчаціннем, з вачыма, у якіх люстравалася пустэча. Яна пазнала ў ім майстра, які некалькі разоў набіваўся да яе зрабіць нішу пад халадзільнік. Ці гэта ёй толькі падалося? Прынамсі, ён быў у такім самым зялёным спартыўным касцюме з пунсовымі лампасамі. Патыхаючы перагарам, сусед захрыпеў:

— Эта ваш клоп усё врэмя скрыпіт? Еслі не перастанет, рукі паадбіваю! Все саседзі жалуюцца! Я вас прадупраджаю!

Яна зніякавела. Яна не ведала, што казаць. Хоць магла ж нагадаць яму і пра начныя сваркі, і пра дзіцячы крык, і пра тое, што літаральна ўчора ён ці ягоная жонка ледзь іх не залілі. Цякло нават з выключальнікаў. І кнігі яшчэ зараз сушацца на батарэях... Але яна маўчала. І больш за ўсё на свеце баялася, каб Ларык, які стаяў за яе спіною са скрыпачкай, і ўсё чуў, не расхацеў займацца музыкай. Яна проста зачыніла дзверы і, пракаўтнуўшы крыўду і боль, паклала пад язык валідол. А потым папрасіла Ларыка сыграць ёй яшчэ раз...

Ларык здаў экзамен, і адзін з выкладчыкаў запэўніў яе, што яго абавязкова прымуць у ліцэй. Яны зайшлі ў магазін купіць торт, але была чарга, а Ларык захацеў, даруйце за падрабязнасці, у прыбіральню. І яна, першы раз у жыцці, дала яму ключ і адправіла яго дадому аднаго. Ларык мог бы дабегчы да іхняга чацвёртага паверха і пешкі, але ён пэўна ўжо ледзь цярпеў, і выклікаў ліфт, у які ўслед за ім заскочыў (гэта ж трэба гэткае ракавое супадзенне) іхні, той самы, азызлы сусед зверху ў зялёным спартыўным касцюме з пунсовымі лампасамі... І настаўляючы свае мутныя, чырвоныя вочы, патыхаючы перагарам, загырчэў:

— Я жа прадупраждал тваю мамашу. Я жа вас прадупраждал, што еслі будзеш яшчо скрыпець...

Калі яна, вясёлая, з торцікам, падышла да сваіх дзвярэй, Ларык бледны, з заплюшчанымі вачыма, сядзеў, падціснуўшы свае худзенькія, вострыя каленькі, на бетонным падлозе. Ягоныя рукі, ягоныя пальчыкі, усе ў крыві, бездапаможна звісалі долу. Белая сарочка, камізэлька, шорцікі і нават аксамітны "матылёк" — усё было запырскана крывёю. Побач пры дзвярах ляжаў расчынены футарал са скрыпачкай... Таксама ліпкі ад крыві...

Пакуль прыехала "хуткая", выклікаць якую Алена бегала ў тэлефон-аўтамат, Ларык спачатку сам, потым з ейнаю дапамогай памыўся і пераапрануўся. Бедны, ён так і не паспеў у прыбіральню...

Ларык дрыжэў, трымцеў і маўчаў... Ні слова не казаў пра тое, хто яго так. І толькі доктару, строгаму, іранічнаму барадачу, ужо ў бальніцы, прызнаўся, што дзядзя-сусед заціснуў яму пальчыкі ў футарал і стукнуў па ім нечым важкім. Алена, пачуўшы, страціла прытомнасць...

— Чаму ж ты не крычаў?! Чаму не крычаў?! — пустым, нікому цяпер непатрэбным рэхам па пустой цёмнай кватэры гуляла, білася аб голыя сцены, аб голую падлогу, аб столь з лямпачкамі без абажураў, камяком перасядала ў горле ейная роспач...

І тады яна ўстала,і не чакаючы, пакуль выплыве месяц, вобмацкам адшукала, уставіла патрэбную касету, уключыла магнітафон. І на ўсю кватэру, на ўвесь дом, на ўвесь свет загучала тая самая музыка, мелодыя, якую яна чула ад дзеда, і якою Ларык вітаў узыход сонца... Яна паспела, запісала яе цішком на магнітафон... Ларык іграў дзедаву мелодыю...

І дах паплыў. І яна зноў апынулася ў сваім уласным доме, у сваім уласным палацы... І зоркі засвяцілі ёй проста ў вочы. І сярод іх была адназіная, тая самая, з якой пачыналася ейная сцяжынка ў рай...

Нехта званіў у дзверы, нехта біў па батарэі, а яна не чула. Яна бегла па сваёй, толькі ёй вядомай сцяжынцы. Яна бегла да свайго дзеда Ларывона, яна бегла да свайго Ларыка. І ніхто ніколі не супыніць яе на гэтым шляху...

**кулік, — ты кажаш сабе, што зрабіў усё, што мог. Але цалкам ідэальнага выканання няма, таксама як чалавечы характар, погляды не стаяць на месцы і пастаянна змяняюцца. Тое ж — і ў выкананні самых выдатных піяністаў. Паводле іхніх запісаў розных гадоў цяжка сказаць, што лепш, што горш. Запісы розняцца паміж сабой, і ўсе можна назваць сапраўды геніяльнымі. Але ўсё гэта геніяльна зусім па-рознаму. Ніколі не дасягаеш такога моманту, калі гаворыш: "Гэта я буду граць заўсёды толькі так і ніколі інакш". Часам ты застаешся задаволены выкананнем, але на трэці-чацвёрты раз сыграеш зусім інакш. І цяжка будзе сказаць, калі больш удала.**

Сяргей Мікулік сумяшчае выканальніцкую дзейнасць з педагагічнай. Але ці не перашкаджае яна творчаму росту выканаўцы? На думку майго суразмоўцы — і так, і не. Часу сяды-тады бывае шкада. Разам з тым, праходзячы агромністую колькасць рэпертуару, ён часта рэкамендуе студэнтам творы, якія сам не выконваў, і ў працэсе заняткаў узнікае жаданне і самому іх выканаць.

**— Такім чынам я і сам "праходжу" гэты твор, — удакладняе Сяргей Аляксандравіч, — і ўжо ведаю, што мне трэба будзе тут зрабіць, калі вазьмуся за гэтую музыку. Вобраз у мяне ўжо выспеў, і застаецца чыста тэхнічны бок працэсу.**

Ну, а калі казаць пра беларускую фартэпіянную школу як пра з'яву... Сяргей Аляксандравіч мяркуе, пра такую з'яву сапраўды можна гаварыць, і, мабыць, менавіта таму, што ўзровень піянізма і яго развіцця дастаткова высокі ў нашай рэспубліцы. Многія з беларускіх выканаўцаў могуць паспаборнічаць з піяністамі рускай і іншых нацыянальных школ. Але гаварыць пра якія-небудзь асаблівасці піянізма і творчых індывідуальных поглядаў, уласцівых менавіта беларускай піяністычнай школе, мабыць, пакуль цяжка.

**— Тое, што мы разумеем, як правіла, пад гэтым паняццем, — руская фартэпіянная школа, французская, нямецкая, — павінна абапірацца на глыбінныя вытокі, — лічыць ён. — Але будучае, я думаю, у беларускай фартэпіяннай школы ёсць.**

**Таццяна САКАЛОЎСКАЯ**

---

К. Чорны, В. Быкаў, А. Міцкевіч, М. Гогаль, М. Астроўскі, А. Пушкін, У. Шэкспір, Т. Ман, Б. Шоу, Ю. О'Ніл і г. д.).

Рэйтынг купалаўскага тэатра ў рэальнай аўдыторыі дастаткова высокі — першае места ў шкале пераваг тэатраў г. Мінска, далей — опера і балет (30 працэнтаў апытаных), музычная камедыя (25 працэнтаў), "Хрыстафор" (16,7 працэнта), Альтэрнатыўны (Малы) тэатр (10 працэнтаў), Маладзёжны тэатр (10 працэнтаў), "Вольная сцэна" (8,3 працэнта), Рускі тэатр (6,7 працэнта), тэатр-студыя кінаакцёра (1,7 працэнта).

Для патэнцыяльнай студэнцкай аўдыторыі (апытанне студэнтаў г. Мінска) найвабны Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета, далей ідзе Дзяржаўны тэатр музкамедыі, а купалаўскі тэатр — на трэцім месцы.

Нельга не ўлічваць з'яўленне ў канцы 80-х гадоў тэатраў-студый з іх нястомным пошукам новых мастацкіх рашэнняў, эксперыментаваннем, творчым энтузіязмам, мабільнасцю — яны ажывілі тэатральнае жыццё і прыцягнулі ўвагу гледачоў. З'яўленне студыйнага руху, адкрыццё новых тэатраў паўплывала на працэс перапамеркавання глядацкай аўдыторыі, і ў нейкай ступені яны складаюць канкурэнцыю прафесійным тэатрам. У гледачоў, арыентаваных на нацыянальную культуру, з'явілася магчымасць выбару, бо тэатры "Вольная сцэна", "Дзе-Я?" — нацыянальныя (рэпертуарная афіша заснавана на беларускай драматургіі). Тэатральнае жыццё ўскладнілася і вымагае стварэння ўласнага непаўторнага выбару адметнага рэпертуару, нястомнага мастацкага пошуку, новай стратэгіі фарміравання аўдыторыі. У цяперашняй рэальнай сітуацыі важна захаваць сваіх элітарных гледачоў і пашыраць сферу ўплыву сярод іншых глядацкіх груп.

Кожны трэці мінскі студэнт усё ж прыходзіць у тэатр. Новыя пастаноўкі не застаюцца незаўважанымі ў студэнцкім асяроддзі: арыентацыя на нацыянальную культуру, мову, беларускую драматургію садзейнічае гэтаму. Тэатру неабходна асэнсаваць гэта і як мага зменшыць адлегласць паміж тым, што абвяшчаецца, і тым, як на самай справе розныя глядацкія групы сябе паводзяць. Відавочна, што купалаўскі тэатр недастаткова выкарыстоўвае свае творчыя магчымасці, асновы духоўнай культуры нацыі, каб адрадзіць гістарычную памяць і каб прапагандаваць нацыянальную культуру.

**Валянціна ІЎЧАНКА, кандыдат філасофіі**

---

ЗГАДКІ

# Дасканаласць пачыналася з яго

## СПОЎНІЛАСЯ 90 ГАДОЎ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ НАРОДНАГА АРТЫСТА СССР ІОСІФА ЖЫНОВІЧА

***Новае, на прафесійнай аснове, жыццё беларускіх цымбалаў пачалося з іх вясельнага звону на сцэне ДБТ-І (тэатр Янкі Купалы). 1922 год. Сюды быў прыняты ў якасці артыста Іосіф Жыновіч. Гэты тэатр акцёраў-самародкаў стаў альма-матэр і для хлапчука з вёсачкі Арэшкавічы, што згубілася сярод стогадовых дубоў, паўнаводнай Свіслачы, лугоў Міншчыны.***

Народная артыстка Беларусі Ірына Ждановіч успамінала: "Хлопчык прыйшоў у лапцях, яго паслухалі і прынялі. Ён быў надзвычай дапытлівы, успрымальны і таварыскі. Усіх ён паважаў і нікога не цураўся".

Самотнае жыццё было не для ягонай натуры. Ён цягнуўся да людзей. Менавіта ў тэатры Іосіф Жыновіч фарміраваўся як творчая асоба — сярод такіх, як сам, адораных прыродай, надзеленых "божымі іскрамі". Выключныя здольнасці Юзіка прыцягвалі ўвагу неардынарных людзей. Яны далікатна, у меру сваіх сіл, накіроўвалі яго, надаючы веры ў прэстыжнае будучае на той час яшчэ непрыкметнага на сцэне інструмента, без якога тым не менш не абыходзіўся ніводны народны фэст і людская гулянка.

У тэатры ён чуў, як скрыпач Л. Марковіч іграў папулярныя п'есы Крэйслера "Цудоўны размарын", "Мроі кахання"; "Мазурку" Вяняўскага ды інш. Цудоўная музыка клікала да яе спасціжэння. А яму, падлетку, трэба было пачынаць з азоў, бо настаўніка-музыканта побач не было. Ён, маючы "шалёны" слых, мог бы сходу "пакласці" ўсе тыя п'есы на цымбалы. Але яму было не па душы "злізванне", капіраванне чужога. Ён не спяшаўся. Перагортваў старонкі кніг. І такт за тактам, адпаведна свайму разуменню, паступова складваў уласную трактоўку музычнай п'есы, каб абгрунтавана, пераканаўча прадставіць слухачу. Ён "паспяшаў павольна", крок за крокам прасоўваючыся да авалодання тэорыяй музыкі, гісторыяй і г. д.

Іосіф быў гатовы многае спасцігаць саматугам і на працягу ўсяго жыцця — быць першапраходцам. У яго не было трывог, адчаю і змарнаваных гадоў. Ён верыў людзям, бо тады шанавалі такія паняцці, як сціпласць, сорам, гонар, сумленне, грэх. Яму пашанцавала жыць сярод спагадных людзей.

Іосіф прадоўжыў адукацыю ў мінскай школе N 11 (цяпер N 42). Тут Стась Шушкевіч і Юзік Жыновіч, як члены рэдкалегіі, пад кіраўніцтвам А. Бабарэкі, выпускалі насценную газету. Юзік спрабаваў складаць музыку. Ягоны аднакласнік, потым вядомы пісьменнік С. Шушкевіч, расказваў: "Вучыліся разам у працоўнай, паказальнай школе пры Белпедтэхнікуме. Удзельнічалі ў самадзейнасці, выпускалі газету на беларускай мове. Упершыню я пачуў цымбалы ў музычнай майстэрні. Калі ўвайшлі туды, то Юзік пачаў гутарыць з майстрам. Я ўбачыў цымбалы невялікага памеру, не вясковыя. Юзік сеў і зайграў. Такога я ніколі не чуў! Гэта было вельмі прыгожа! Я напісаў вершы, якія неўзабаве Юзік паклаў на ноты, і твор выканала наша аднакласніца на вечарыне..."

Са школьных гадоў Іосіф асабіста ведаў аўтара паэмы "Сымон-музыка". З 1924 г. у ягоны клас Якуб Колас прыводзіў на практыку навучэнцаў з Белпедтэхнікума, дзе працаваў. Колас сам сядзеў на ўроках А. Бабарэкі, удзельнічаў у іх абмеркаванні.

Пазней Жыновіч вучыўся кампазіцыі ў В. Залатарова і М. Аладава. Ён успамінаў: "Рашаў задачы па гармоніі, пісаў фугі і асабліва любіў сачыняць матэты. Тады настаўнікаў па цымбалах не было".

У пакоі чыгуначніка (блізка ад вакзала), дзе кватараваў Іосіф, стаяў раяль. Ён падбіраў і граў адным пальцам народныя мелодыі, а потым пачыналіся экзерсісы. Яго колішні сусед, пісьменнік У. Юрэвіч расказваў: "Юзік іграў так шмат, што не было спакою ўсяму завулку".

Пачыналася новая эпоха ў жыцці цымбалаў ды іншых народных інструментаў. Пасля таго, як дыяпазон "вясковай альтушкі" быў узняты на актаву вышэй і вынайдзены групы малатковых струнных цымбалаў, пакладзеных, як казалі вынаходнікі, на "раяльны лад", цымбалы ўзыходзяць на сцэну і ў ансамблі, і сола.

Імкнучыся дасягнуць напеўнага і моцнага гуку, Жыновіч выдаляе траскучасць і брынканне свайго "дзедаўскага" інструмента. У першым, нямым, беларускім фільме, музычнай энцыклапедыі таго часу, "Лясная быль" або, як называў яго Жыновіч, "Грышка-свінапас", знятым Ю. Тарычам у 1926 г., мы бачым у руках Іосіфа ўдасканаленыя ім малаточкі з завітком, падшытыя знізу калматай скурай.

На рэканструяваных цымбалах загучалі не толькі вясёлыя танцы, а і трагічныя ляманты і галашэнні. Цымбалам даступны лірыка, падобная на пацевы брызу, і насычанае развіццё вобразнай драматургіі. Яны здатныя выявіць пакуты вернай Сольвейг, закаханай Тоскі, партызанкі Алесі і страсць Далілы...

Мара Жыновіча — разняволіць народныя інструменты, накіраваць у новае рэчышча прафесіяналізм і дасягненні майстэрства праз шырокую сетку асветніцтва, сёння сталася рэальнасцю. Ім быў закладзены падмурак цымбалазнаўства — навукі пра цымбальнае мастацтва. Створаная Жыновічам першая ў гісторыя "Школа для беларускіх цымбалаў" дагэтуль застаецца асноўным дапаможнікам у авалоданні найдасканалымі "ноу-хау", апрабаванымі не адным пакаленнем музыкантаў. Стваральнік "Школы..." нібы ўручыў усім ключы да разгадкі таямніц прыгажосці гуку. І зрабіў усё, каб сур'ёзная, складаных формаў музыка стала здабыткам простага люду. Трэцяе выданне "Школы..." перакладзена на беларускую мову і адрэдагавана Т. Сяргеенка і В. Лучанок.

Удасканаленыя Жыновічам і майстрамі цымбалы зрабіліся класічнай мадэллю, узорам беларускага канцэртнага інструмента. Яны — адзін з музычных сімвалаў дзяржавы Беларусь. Непаўторны голас роднага нашага краю.

**Зоя НАСЦЕНКА**



*Іосіф Жыновіч. 1967 г.*



*Заняткі ў кансерваторыі. 1964 г.*



*З Ігарам Лучанком у час працы над новым творам. 1975 г.*



*Сярод вучняў. 1964 г.*

## Выстава "Трэугольніка"



**У віцебскай музычнай гасцёўні адкрылася персанальная выстава работ выкладчыкаў вучылішча мастацтваў Алены Гаршковай, Васіля Негіна і Дзмітрыя Сянько. На суд гледачоў прадстаўлена каля 40 жывапісных палотнаў, якія аб'ядналі іх аўтараў у групу "Треугольник".**

*На здымку: Васіль Негін, Алена Гаршкова і Дзмітрый Сянько на адкрыцці выставы.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## Квецень сонечных промняў



**У рамках рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур у Мінску прайшоў першы Форум музычных культур народаў Беларусі "Квецень сонечных промняў". Мерапрыемствы форуму ўключылі ў сябе — адкрыццё мастацкай выставы "Свет вачамі дзяцей", конкурс малюнкаў на асфальце, канцэрт фальклорнага ансамбля "Дударыкі" і навукова-педагагічную канферэнцыю "Узаемадзеянне і ўзаемаўзбагачэнне нацыянальных музычных культур народаў Беларусі".**

*На здымку: на мастацкай выставе "Свет вачамі дзяцей".*

*Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БЕЛТА*

## Лепельскі Дом рамёстваў



**Пяць гадоў працуе ў Лепелі Дом рамёстваў. Трынаццаць відаў традыцыйных беларускіх рамёстваў развіваюцца сёння тут. І, на шчасце, знаходзяць тых, каму цікавыя — ткацтва, разьба па дрэве, ганчарная справа, вышыўка. У шматлікіх гуртках, што дзейнічаюць у Доме рамёстваў, навучаюцца дзеці і дарослыя. Амаль 250 жыхароў Лепеля наведваюць гэтыя гурткі.**

*На здымку: Алеся Пасмурэц і Дзяніс Салаўёў займаюцца ў гуртку керамікі, якім кіруе Марына Віктараўна Сайчанка.*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

# Укрыжаваная Беларусь

*(Праця́г. Пачатак на стар. 5)*

"лягавыя" й да т. п.). Згадаем таксама навелу "Сабачая служба" Ядвігіна Ш. Гістарычны фатум пастанавіў зверхнікам на Беларусі быць яшчэ й вартаўнікамі — пры запаветнай зоне, зоне zero, каля ўкрыжавання. То ж бо яны мусілі быць не адно гаспадарамі, але й цэрберамі, і нават памяркоўныя й дальнабачныя паміж імі не заўжды карысталіся любоўю народнай, як засведчыў класік:

"Я паглядзеў туды, куды глядзеў ён. Над галерэяй, у акне на рагу палаца, я ўбачыў змяты страшны твар чалавека, які ўчапіўся пальцамі ва ўзорныя краты акна. У вузкіх вачах гэтага чалавека нават дурань заўважыў бы розум, іскру божую, жвавасць. Але я заўважыў у іх яшчэ нешта. Гэта была зайздрасць, страшная чалавечая зайздрасць да таго, хто ехаў на ганебным, падобным на труну возе.

Гэта быў Салега.

І раптоўна па ўсім замкавым двары, па ўсіх пераходах раскаціўся дзікі, страшны па сіле голас, якога палохаліся ў бітвах ворагі.

— Леў! Леў! — роў голас.

І ў таго, хто роў, грыва, якую развейваў вецер, падала на лоб. А на падзёртых голых грудзях ляжала прыгожая сляпая галава.

— Леў, ты стаў лісіцай! Калі будзеш ваўком — памрэш, як сабака.

Кінуўся твар у акне. Яму засталося толькі кідацца і зайздросціць. Ён жа не мог так" (Ул. Караткевіч, "Сівая легенда").

Яны, благія беларускія зверхнікі, таксама былі палоннікамі зоны zero, ведалі паралізуючую, фатальную сілу, уздзеяння якой вытлумачыць не маглі.

Іншыя, недальнабачныя, цішыню ды зманлівы спакой на ўкрыжаванае зямлі лічылі сваёй асабістай заслугай і напраўду ператвараліся ў тое, пра што крычаў голас з "Сівой легенды". Або ў штось горшае, пра што выказаўся Гервасій Выліваха:

"Выліваха крэкнуў:

— Колькі разоў сабе казаў: не звязвайся з начальствам, не чапай, Гервасій, дзярма.

Ладдзя зарагатала".

Іншым разам халодную кропку спрабуюць разагрэць з дапамогай чужой ідэалогіі, споўненай нязвыклым для гэтага краю імпэтам, безразважлівасцю. Зона zero моўчкі і амаль абыякава пракаўтне новую ідэалагему, як каўтала і старыя, так, што і следу не застанецца на спакойнай паверхні.

## ТУТЭЙШЫ ЧАЛАВЕК

Цягам доўгіх стагоддзяў чужынцы ўздымаюць пыл на нашых дарогах, і ў спешцы нічога ведаць не ведаюць і не хочуць ведаць ні пра нашую зямлю, ні пра нашых людзей. Для іх Беларусь, як для Усходняга ды Заходняга вучоных з "Тутэйшых" — нешта празрыстае, "прыдуманае" ці то нацыяналістамі, ці то бальшавікамі, якаясьці фатамаргана. Ах, як жа яны дзіваваліся, калі аб гэтае празрыстае балюча набівалі гузы, як, прыкладам, пад Сіняй Вадой, Грунвальдам, у беларускіх лясах падчас войнаў апошняга стагоддзя. Літоўскае войска пад сценамі Масквы, змаганне з крыжакамі ды з крымчакамі, паўстанні дзеля незалежнасці — усё гэта было.

Ды разам з тым, кінуўшы вока на тутэйшых, часам можа падацца, што ў пару найвялікшых гістарычных узрушэнняў сядзеў мужык-беларус на ўзбочыне дарогі і меланхалічна глядзеў, хто там яшчэ сунецца.

Рана або позна да фатальнай недапраяўленасці дадаўся інстынкт самазахавання тутэйшага. У рэшце рэшт, ці мала тут сноўдаецца набрыдзі ўсялякай, а кожнаму насустрач выскокваць ды пытацца: "Хто такі й чаго табе трэба?" — моцы не хопіць. Жыццё навучыла: усе яны гэтымі ж дарогамі й сыдуць, а ён, тутэйшы, заўсёды тут, каля свайго крыжа. Слова "тутэйшы", па-за тым трагічна-саркастычным значэннем, якое надаў яму Купала ў сваёй апошняй п'есе, у першым значэнні ёсць дастатковай самаідэнтыфікацыяй чалавека, які жыве ў зоне zero. Гэта астатнім, хто блукае вакол, трэба дапасоўвацца да тутэйшай прасторы, выдумляць сабе найменні, а нам у гэтым ніякай патрэбы няма.

Згадайма, як называе сябе тутэйшым Мацей Бурачок, калі яго спыняюць каля вёскі казакі і пытаюць: "Хто ты ёсць?" А той адказвае:

***"Тутэйшы" кажу я, свой чалавек,***
***Сын бацькі свайго, а бацька дзяцей,***
***Тут і радзіўся, тут жыву век,***
***Юркам зваць бацьку, я дык Мацей.***
***Вунь дзе і хата, і выган, і сад:***
***Там жэнец мая жонка,***
***а тут гарэць брат..."***

*(Францішак Багушэвіч, "Хрэсьбіны Мацюка").*

Гэта ягоны свет, ягоны мікракосм, а тлумачыцца варта было б казакам. Поўнае значэнне слова "тутэйшы" (у сэнсе нацыянальнай прыналежнасці й веры — уніяцкай) вядомае адно Мацею, але ён нічога не збіраецца тлумачыць. А казак, для якога "тутэйшасць" абсалютна недасяжная катэгорыя, ажно заходзіцца да злосці.

Хто ж ён — гэты тутэйшы, які жыве на гэтай белай зямлі?

## ЯГОНЫ ДОМ

А ён асабліва нічога не будзе вам тлумачыць, пераконваць у нечым, а як будзеце больш настойліва дапытвацца, дык і ў хату сваю не пусціць. Дзіўная ў яго хата, парадаксальныя адносіны да яе.

***Бедна ж мая хата расселася з краю***
***Між пяскоў, камення, ля самага гаю.***
***Ля самага бору, на беражку лесу:***
***Ніхто тут не трапе,***
***хоць бы з інтарэсу.***

*(Ф. Багушэвіч, "Мая хата")*

"Кепска мая хата, падваліна згніла, і дымна, і зімна", — зацягне Мацей Бурачок далей. Суседзі, шкадуючы мужыка, будуць запрашаць яго ў новую багацейшую хату, навыперадкі прапаноўваць новы дом альбо "общежитие". Але гаспадар зацята трымаецца гэтай уяўнай беднасці. Нават калі б гвалтам адарвалі ад гэтай хаты, усё адно вярнуўся б і зрабіў такую самую. Што было з Лявонам Зяблікам, калі змушалі яго "кінуць тую хату, скуль бацьку і матку на магілкі вывез"? Засліўся на ўласным надворку.

Што гэта, любоў да ўласнай беднасці? Патрыятызм? Але патрыятызм не ёсць любоўю да ўласнае галечы, а жаданнем пазбыцца яе. Мужык-гаспадар ізноў нічога не патлумачыць, што ж там унутры, якое такое зерне схаванае, хата замкнёная, а мы бачым яе звонку, вачыма суседзяў, паводле выгляду, формы. А форма — ніякая, някідкая, шэрая.

Гаспадар хіба што абмовіцца адным словам наконт свае хаты: "а яна мне міла". Слоўца-адтулінка, слоўца — шчылінка паміж бярвеннямі, што дазваляе нам зазірнуць унутр.

"Міла" — слова, сагрэтае пачуццём, міла бывае душы і сэрцу. Там, усярэдзіне жытла, душы гаспадара міла, утульна, камфортна. Гэта — поўная неадпаведнасць нецікавай шэрай формы і ўнутранай высокай сутнасці.

Як тут не згадаць біблейскае: "Усявышні не ў рукатворных бажніцах жыве". Міцкевічава: "Жыццё іх цалкам у духу. На зямлі іх гісторыя поўная смутку і жальбы". Караткевічава: "На Беларусі Бог жыве". Ён жыве ў душах, душах-хатах. Адчуванне Бога ў сваёй душы, вернасць Божым ісцінам — вось што схавана ад суседскіх вачэй унутры хаты-душы. Тутэйшы, які жыве на гэтай зямлі, "рэчы ў сабе", ёсць сам "рэччу ў сабе". Ён арыентаваны на "ўнутранае", на духоўны пошук. Ягонае стаўленне з Богам — не артадаксальнае, а бадай што свойскае, ягонае адчуванне сакральнага — бадай што панібрацкае. Бог не адчуваецца недасяжным, далёкім, а тутэйшым, бо ён — тут.

"Хрыстос нарадзіўся на вашым двары", — спяваюць калядоўнікі, пераходзячы ад адной хаты да другой, не багацейшай з выгляду. Тутэйшаму лёгка ўявіць, як на гэтым надворку, у гэткіх яслях нарадзіўся Збавіцель.

У свядомасці тутэйшага лёгка разыгрываецца містэрыя сатварэння свету, гісторыя ўкрыжавання Сына Божага і ягонага ўваскрасення, новага прышэсця ды Страшнага Суда — у тутэйшых, зямных праявах. Юда, што здрадзіў Збавіцелю, вешаецца ў тутэйшых партызанскіх пушчах на асіне. Хрыстос прызямляецца ў Гародні, а Саваоф, які ў фінале рамана пра мужыцкага Хрыста, нагадвае тутэйшага заможнага і гасціннага гаспадара.

Тутэйшы адчувае сваю трагічную абранасць цераз блізкасць да крыжа як сімвала пакутаў. Містэрыя ўкрыжаванага Збавіцеля часта атаясамліваецца ў яго з уласнай укрыжаванасцю, уласным цярпеннем. Ваякі, што дзялілі Еўропу, праляталі цераз Беларусь з ашклянелымі ад шалу вачмі, не зважаючы, што пераступаюць цераз крыж. Беларусь і сёння пачуваецца цэнтрам гістарычнае дзяльбы, плацдармам барацьбы за новую Еўропу.

"Горад тут пуп дарог", — прачытваем нават у вершы сучаснага паэта-"бумбамлітаўца" Сержука Мінскевіча. Паліндром можна расчытваць і з хваста ў галаву — усё адно "пуп дарог". Меў рацыю і Несцерка, калі ў адказ на пытанне "Дзе пуп зямлі?" смела торкаў кіем сабе пад ногі: "Тут". Адно сёння Беларусь укрыжаваная не толькі на скрыжаваннях дарог — яшчэ й на газавай трубе, па якой перацякае блакітнае паліва.

## "ШТО ТУТ БУДЗЕ ЦЯПЕР?" —

такое пытанне задаваў і задае сёння кожны, хто з трывогай думае пра Беларусь. Адказвае мудры Купала вуснамі сваіх мудрых палешукоў з паэмы "Над ракою Арэсай": "Нічога не будзе".

Не знікне родная мова, па памiранне якой казалі дзесяткі і сотні год таму, а яна жыла, насуперак усім законам, паводле якіх нараджаюцца й паміраюць мовы.

"Не загіне краю родны", "чарнобылем не зарасце", бо тут — асуджаны на неўміручасць, прынамсі, да тае пары, пакуль "не пагаснуць зоры ў небе".

Хай гэта будзе малым суцяшэннем для тых, хто прыйшоў у роспач ад таго, што тутэйшае быццё марудней, чым у кагосьці з суседзяў, паварочваецца да слушнага ладу.

Беларусы — не зломкі ды не ізгоі ў свеце; Беларусь не апране на сябе рызманой адвечнай выгнанніцы-жабрачкі. Беларусы таксама хочуць жыць, як усе людзі пасьпалітыя, і, без сумліву, будуць церабіць да гэтага жыцця ўласны шлях.

Але не трэба дзівіцца, што ў гэтай белай краіне палітычны ківач (маятнік) можа надоўга застыць у недарэчнай пазіцыі, а вектар грамадскага жыцця схіліцца ў непрадказальны бок. Дзейнічае глыбінная, невыказная анамалія. У зоне zero духоўная, сацыяльная актыўнасць грамадства чымсь прыгаломшаная, хаця ў нейтральных варунках яна непазбежна б і хутка прывяла да пасіянарнага выбуху.

"Гэта фаталізм", — з упэўненасцю пракажуць апаненты. Магчыма. Але гэты фаталізм не адмаўляе творчага, стваральнага пачатку беларускае душы, якая працівіца, як можа, несpрыяльным абставінам. Ну, а калі сцвярджаюць пра непераадольную расколіну, хібу ў душы беларускай, ад якой усе беды, — ці гэта не фаталізм? Калі вучаць, "што мы не ёсць мы, што мы нейкае нешта, якое абы накарміў, як быдлё, дык і сыта будзе" (Я. Купала, "Тутэйшыя")? А гэта ўжо фаталізм без прасветліны, пры якім не пабачыш святла напрыканцы тунеля.

Мы, аднак жа, верым.

## ЗНЯЦЦЕ З КРЫЖА

"Ліючаяся форма", паводле Абдзіраловіча, — таксама шлях, але шлях, якім Беларусь павінна прыйсці сама да сябе, атаясаміцца з сабою. "Цярпець" і "пакутаваць" у беларускай мове — тое ж самае. Цярпенне, шлях да сябе — той крыж, які Беларусь мусіць вынесці да канца.

Калі, якім чынам адбудзецца зняцце з крыжа?

Тут мы ўваходзім у хісткую, няпэўную зону гіпотэзаў і версіяў, цьмяных здагадак, дзе немагчымы адназначны, адзіна слушны прагноз.

Нам бачыцца, што спадзяванне Беларусі-нявесты на свой гістарычны пасад — не марнае. Адно не настаў яшчэ яе час. Як, памятаеце, у добрай старой кіназказцы пра Папялушку паводле Шварца? Усе персанажы — Сіняя Барада, Кот у ботах, Хлопчык з пазногцік — адгулялі ў сваіх казках і ціхенька дрэмлюць на чужым свяце. Беларусь-Папялушка яшчэ не адсвяткавала свой гістарычны баль. Або, як выказаўся класік марксізму-ленінізму, "не адспявала свае гістарычнае песні".

Шлях да сябе не будзе копіяй ці паўтарэннем чыйгосьці шляху; у кожнага ён адметны. Паўтараецца хіба што адно: перададоленне спакус, хвароб духу. Францыя адпакутавала на тры рэвалюцыі і банапартызм, Нямеччына адхварэла трыма рэйхамі ды маніяй сусветнага валадарання, Польшча перажыла стагоддзе гістарычнай настальгіі ды нэндзы.

Ніхто іншы не пройдзе наш шлях замест нас.

Беларускі шлях трэба не толькі прайсці — але і адолець, выцярпець, адпакутаваць. Бо канчатковая мэта — зняцце з крыжа.

Але канец шляху, маркуем, прынясе не толькі палёгку, але і страту.

Марудна, малазаўважна, але ключавыя зоны, цэнтры светабудовы мяняюць сваю канфігурацыю. Аднойчы Парыж перастане быць заканадаўцам сусветнае моды, а Нямеччына — інкубатарам філосафаў. За пройдзены шлях, за набыты спакой трэба расплачвацца.

Беларусь можа стацца добраўпарадкаванай, заможнай, але стомленай, дрэмлючай краінай. Яна верне вечнасці сваю таямніцу, размяняўшы яе на спакой. Але і гэта — няхутка. Пакуль што мы ў дарозе.

# "Сяброў маіх цудоўныя абліччы..."

Пятро ВАСІЛЕЎСКІ

***Неяк знянацку, па-ліхадзейску раптоўна, громам з яснага неба грымнуў патрабавальны напамінак: пара, браток, збірацца ў апошняе падарожжа. Прыйшоў час, як кажуць, "падбіваць бабкі".***

***Пара, дык пара! Куды дзенешся? Ды вось толькі "падбіваць" асабліва няма чаго. Бывае... І я лічыў бы сваё сціплае жыццё зусім няздатным, страчаным, калі б не пашанцавала мне на цудоўных сяброў, у якіх хапіла добрай волі і духоўнай высакароднасці, каб пераадолець тую заганную рэчаіснасць, у якой нам выпала жыць і працаваць...***

***Вось скупыя штрыхі да іх партрэтаў.***

...Я стаю ля вакна ў маім утульным пакойчыку чароўнага пісьменніцкага прытулку Каралішчавічы. Ярка-чырвоныя камячкі спрытных снегіроў мітусяцца ў дрэвах, збіваюць з кашлатых верхавін іскрыстую снежную імжу. Бачу: пад'ехала таксі. З машыны, сгінаючыся сваёй высачэзнай постаццю, выбіраецца Янка Брыль. Падняўся па рыпучых, прамерзлых прыступках на высокі ганак, пашаркаў падэшвамі вялікіх ботаў, затым далікатна справіўся з візглівымі ўваходнымі дзвярыма — час быў ранні, а паэты і празаікі любяць паспаць, асабліва "совы", да якіх натхненне чамусьці прыходзіць толькі ўначы... Чую: Іван Антонавіч затрымліваецца каля маіх дзвярэй, яны асцярожна прыадчыняюцца, і магутная, мужыцкая рука працягвае стос газет.

Я здзіўлены. Пытаюся:

— Гэта мне?

Іван Антонавіч паблажліва пасміхаецца:

— Павінен жа я чымсьці прадэманстраваць сваю сімпатыю да цябе.

Я паспешліва бяру з пісьмовага стала важкі том — "Адкрыццё Індыі" Неру, працягваю кнігу Івану Антонавічу:

— Узаемна! У знак маёй сімпатыі...

Ён беражна бярэ ў рукі патрэбную яму кнігу — тады пісаліся нататкі аб падарожжы ў легендарную краіну Гандзі, Неру, Рэрыха. Працуючы над кнігамі пра свае вандраванні па белым свеце, Брыль больш за ўсё асцерагаўся верхагляддзя, трафарэтнасці. Таму, перш чым абнародаваць тое, што пабачыў на свае ўласныя вочы, ён грунтоўна вывучаў усё, што ўжо было напісана пра "аб'ект" яго цікаўнасці. Таму ён шчыра рады маёй "дапамозе".

— От дзякую, пане Васілеўскі! А калі яшчэ пазычыш паперы...

— Бяры ўсю! Мне не спатрэбілася...

— Што так? — Ён глядзіць на мяне з тонкай усмешкай. — Не пішацца? Бывае, бывае... А ведаеш, што раіў нашаму брату-"спісьвацелю" — гэта так па-чэшску... Пішыце, раіў Антон Паўлавіч, пакуль не паламаюцца пальцы. Так што — не шкадуй пальцаў, пане Васілеўскі! Перад абедам зайдзі да мяне... Нешта ж я прывёз з горада. Апетытныя кроплі...

Вось так мілагучным струменем трапечацца абаюдная наша сімпатыя, якой ужо шмат гадоў: пасляваенны лёс звёў нас, салдата і партызана, у славутым Доме друку — Брыль працаваў у сатырычным часопісе "Вожык", я — у "Сталинской молодежи" (тады ўсё было "сталінскае"...). У тыя гады пад латаным-пералатаным дахам архітэктурнага шэдэўра першых пяцігодак аб'ядналіся ўцалелыя пісьменнікі і журналісты, тут пісаліся творы, тут жа яны друкаваліся і абмяркоўваліся, тут жа атрымлівалі мы свае сціплыя ганарары. Гэта было сапраўднае пісьменніцкае братэрства. Дзіўная рэч! Цяпер у нашага брата шыкоўны Дом літаратара, першакласны прытулак "Іслач", а братэрства — няма... Такія вось метамарфозы жыцця.

Так, мы з Янкам Брылём старыя знаёмыя, сяброўства наша трывалае, як кажуць, стабільнае. Усё так. Але калі давялося мне назіраць тую лагоднасць і чысціню ўзаемаадносін Івана Антонавіча з Калеснікам і Міско, а пазней — з Алесем Адамовічам, дык зразумеў, што той пуд солі, які патрэбна сумесна з'есці, каб лічыцца закадычнымі сябрукамі, мною толькі распачаты. Гэты год наш агульны юбілейны: Івану Антонавічу — 80, мне — 75... Дарагі Янка! Нізка табе кланяюся, дзякую за тую інтэлектуальную і духоўную энергію, якой ты шчодра дзялішся з сябрамі, сяроду якіх, спадзяюся, і я не на апошнім месцы...

Незабыўныя нашы шпацыры звілістымі, утрамбаванымі сцяжынкамі каралішчавіцкага сасновага бору! А якія цікавыя, павучальныя бяседы чулі гэтыя карабельныя волаты-сосны! Можа, тыя словы перанялі птушкі, пераклалі на сваю мілагучную птушыную мову, і цяпер які год мрояцца нашы задушэўныя бяседы над векавым борам...

У тых нашых размовах не было для нас нічога забароненага, маглі гаварыць на любыя тэмы, нават на інтымныя. Аднойчы ў палоне душэўнай еднасці зацыкліліся мы на "сямейнай тэме". Іван Антонавіч са шчырай адкрытасцю падзяліўся: "Жонка ў мяне... цьфу-цьфу... разумная, разважлівая, руплівая, добразычлівая. Можна бясконца пералічваць яе станоўчыя якасці: шмат чытае і вельмі тонка, па-жаночы пранікліва аналізуе — дай бог нашым крытыкам! Ды што тут гаварыць... Люблю і паважаю я сваю надзейную спадарожніцу па жыцці. Але ёсць у нашых благаверных адна непераможная рыса... Вельмі ж любяць яны павучаць нас. Трэба гэтак, а не так, глядзі з той бок, а не ў гэты... Павучэнні гэтыя, канешне, маюць рацыю, часта яны вельмі трапныя — празорлівасцю і кемлівасцю бог нашых жонак не абдзяліў. Але, ты разумееш, якая закавыка! Хочацца брыкацца, чамусьці хочацца жыць сваім розумам..." І пра дзяцей: "Ведаеш, вельмі прыемна быць бацькам дарослай дачкі. Вось мая старэйшая ўжо студэнтка, можна сказаць, дзяўчо на выданні, а прыйдзе з заняткаў і спяшаецца да мяне... Смешна, разумееш... Лашчыцца як кацянё, як, бывала, маленькая... І нічога ад мяне не хавала, усе свае дзявочыя сакрэты выдавала — поўны, разумееш, давер. І вось гляджу я на сваіх дачок, на сына Андрэя і сэрцам радуюся: мая парода!"

Цікавыя былі яго меркаванні аб літаратурах, аб пісьменніках, і не толькі пра сваіх сяброў і калег — ён быў асабіста знаёмы з многімі славутымі літаратарамі ўсяго свету. Ён слушна і тактоўна, але бескампрамісна, глыбока і трапна аналізаваў творы празаікаў і паэтаў. На адным пісьменніцкім пленуме ён рабіў даклад аб стане беларускай прозы. Рэдка такія змястоўныя і разумныя даклады гучалі ў тыя гады з літаратарскіх трыбун. Даклад яго прагучаў з нязвыклай адкрытасцю, ён многіх ашаламіў і збіў з панталыку. Многім дасталося "на арэхі", у тым ліку і мне. Аўтарытэтны дакладчык ушчэнт разнёс маю наўдалую аповесць "Первопуток". Свой разгром ён пачаў так: "Трагікамедыя разгортваецца тут з калейдаскапічнай пацешнасцю". Ну, а які прыпеў — такая і песня: дакладчык не пакінуў на маёй аповесці жывога месца — добра пакачаўся! З той жа хірургічнай дасканаласцю было прэпарыравана ўсё напісанае да таго часу ў жанры прозы. Тыя, каго балюча крануў крытычны скальпель дакладчыка, былі пакрыўджаны — пісьменнікі народ ганарысты і ранімы: яны папракалі дакладчыка ў неаб'ектыўнасці, прэтэнцыёзнасці і нават зайздрасці. Гэта было смешна: чаго-чаго, зайздросціць Брылю было проста некаму. Але ён не чакаў такой агрэсіўнай рэакцыі і разгубіўся. Спытаў у мяне:

— Ты таксама зуб на мяне маеш? Я ж табе па-сяброўску больш чым другім калючак падсыпаў... Шчыра кажучы, можна ж было больш лагодна, без яхідства...

— А мне тваё яхідства больш за ўсё спадабалася! — шчыра прызнаўся я.

Брыль паглядзеў на мяне з іранічнай цікаўнасцю і не без яхідства заўважыў:

— Не сур'ёзны ты чалавек, пане Васілеўскі! — І раптам з іншым настроем дапоўніў: — А наогул, Пятрык, зайздрошчу я тваму аптымізму...



Тонкая гэта справа — навесці мост узаемаразумення паміж пісьменнікамі, не кажучы ўжо пра чытачоў. Адна калялітаратурная дама (дарэчы — доктар філасофскіх навук) здзекліва журыла: "Што ж гэта, Брылю ўжо няма аб чым пісаць, ці што? Выдае нейкія "абразкі", нахватаныя з запісных кніжак, ды яшчэ параўноўвае гэтыя фіцюлькі з сонечнымі праменнямі. Смешна!"

Бачыце, ёй смешна. Дык ці варта пераконваць вучоную амбіцыйную дурніцу, што гэтыя "фіцюлькі" і сапраўды сонечныя праменні, акумуляваныя ў мастацкіх вобразах магутнай выразнай сілы. Што гэтыя лірычныя мініяцюры — унікальная кніга. Па глыбіні псіхалагічнага аналізу, шчырасці і красамоўстве яна з'яўляецца ўзорам спавядальнай прозы. Кніга гэта ў адным шэрагу з "Жыццём Арсеньева" Івана Буніна і аналагічнымі творамі рускага Міхаіла Прышвіна, беларуса Якуба Коласа, украінца Сцяфаніка.

Брыль сцвярджае, што ўсе героі яго кніг маюць сваіх прататыпаў: "Ніхто не можа выдумаць чалавека" — вось літаратурнае крэда Майстра.

На адной з сваіх кніжак, падараваных мне, Іван Антонавіч пакінуў такі красамоўны аўтограф: "Дарагому сябру Пецю Васілеўскаму, з якім заўсёды добра".

Можа, і не вельмі сціпла пахваляцца, але ж гэта прызнанне самога Івана Антонавіча Брыля, з якім і мне заўсёды добра...

---

У гэтым годзе Алесю Адамовічу было б 70 гадоў.

Бог надзяліў яго светлым розумам, высокай маральнасцю, непадкупным сумленнем. Моцная воля, дакладная жыццёвая пазіцыя, мэтанакіраванасць — вось дамінанты духоўнага вобліку беларускага хлопца з вёскі Канюхі. Ён дасканала авалодаў накопленымі чалавецтвам ведамі ад антычных часоў да нашых дзён у галіне філасофіі і літаратуразнаўства, культуры і сацыялогіі. Выдатны празаік, эрудзіраваны крытык і вучоны-літаратуразнаўца, актыўны грамадскі дзеяч, мужны барацьбіт са злом, у якім бы абліччы яно ні панавала на зямлі, Алесь Адамовіч, між тым, самакрытычна і непрадузята адносіўся да самога сябе. Гэтыя высакародныя рысы яго характару дазвалялі яму вучыць другіх, быць добразычлівым дарадчыкам і кіраўніком — апошнія гады ён кіраваў знакамітым Інстытутам кіно, вёў курс у Маскоўскім універсітэце...

Я пазнаёміўся з Алесем адразу пасля вайны, калі ён ужо вучыўся на філалагічным факультэце нашага універсітэта. Нейкі час лічыўся і я студэнтам гэтага факультэта, здаў экстэрнам за тры курсы, ды драпануў у Маскву давучвацца. Адамовіч жа паспяхова скончыў вучобу ва універсітэце, паступіў у аспірантуру, абараніў кандыдацкую, а потым і доктарскую, і як ні стрымлівалі чыноўнікі ад навукі імклівую хаду маладога вучонага да вяршынь ведаў, быў абраны член-карэспандэнтам беларускай Акадэміі навук...

...Тэлефонны званок:

— Пятро! Прыходзь з Галяй на бліны. Будуць цікавыя людзі. Толькі не трэба ніякіх падарункаў! Дамовіліся?

Дамовіліся: не любіў Алесь усялякія юбілеі з іх традыцыйнай балбатнёю і таннымі падарункамі. А госці і сапраўды — людзі цікавыя, неадмерныя, неардынарныя. Тут Янка Брыль, калегі-вучоныя па акадэміі, знакаміты хірург, сам прэзідэнт Акадэміі навук (ён прыязна, па-сяброўску адносіўся да маладога вучонага, але не адзін ён "правіў баль" у савецкай навуцы), былыя партызаны — Алесевы лясныя пабрацімы. Некалі мы ўтрох: Аляксей Кулакоўскі, Алесь і я ездзілі па партызанскіх мясцінах, хадзілі па сцежках, на якіх захаваліся сляды юнага партызана Сашкі (так яго звалі тады) Адамовіча, плавалі на рыбацкім чоўне па славутым возеры Палік, якое сталася ў жудасную блакаду магілай карнікаў — паліцаяў і немцаў, у якім і не адзін партызан знайшоў свой апошні прытулак...

Пакуль гаспадыня і жанкі завіхаліся на кухні, рыхтавалі застолле, госці таўкліся ў кабінеце гаспадара. Уздоўж сцен — высокія паліцы, туга набітыя кнігамі. За шклом стэлажа фота: Уладзімір Высоцкі, Марына Уладзі і Алесь Адамовіч. Яны нешта ўважліва разглядваюць перад сабою, такія прыгожыя, разумныя і ўсе трое — таленавітыя, знакамітыя. Па некаторых знаёмых мне атрыбутах мяркую, што фота зроблена на здымках фільма па сцэнарыі Адамовіча. Заглядзеўся я на прыгажуню французскую кіназорку і... не стрымаўся, ляпнуў:

— Алесь, а калі б Марына раптам паклала вока на цябе? А што? Ты ж прыгажэйшы за Высоцкага...

Такія казусы здараюцца са мною, бо язык мой — вораг мой.

Брыль глядзіць на мяне, як на блазна, паблажліва пасміхаецца:

— Пане Васілеўскі, не шчыруй ты пад Мефістофеля. Не атрымліваецца ў цябе...

Крыху збянтэжаны маёй бестактоўнасцю, Алесь удакладняе:

— Тым больш, я не Фауст, і Марына — не Маргарыта. — І, спяшаючыся "змяніць тэму", Алесь выцягвае з кніжнай паліцы том. — Вось, чытаю пісьмы Флабэра... Разумны быў француз! Паслухайце: "Чтобы создать что-либо длительное, необходима твердая база: нас тревожит будущее, нас задерживает прошлое. Вот почему ускользывает от нас настоящее..."

Іван Антонавіч задуменна, быццам сам сабе, ціха кажа:

— Яно, гэтае сучаснае, выслізгвае, а нам, хлопцы, трэба ўчапіцца рукамі і зубамі. І трымаць, не выпускаць з рук! Бо без сучаснага не будзе і будучага...

Змястоўная гутарка завязвалася, ды тут пачуўся голас гаспадыні:

— Дарагія госцейкі, бліны на стале!

...Сустрэліся з Алесем на вуліцы, каля будынка акадэміі. Вечна юнацкі, мілы Алесеў твар пахмурны, заклапочаны. Чысты сакратаўскі лоб абсыпаны крапелькамі поту — спякотнае лета тое...

— Алесь, — пытаюся, — што здарылася?

Ён скасавурыўся ў мой бок яснымі, пранізлівымі вачыма:

— А нічога не здарылася! Ніякіх, разумееш, змен: усё застыла, акамянела... Ціш і гладзь, і божая благадаць...

Я ўсё ж устрывожаны:

— Нешта ж здарылася?

— Ды з маёй "Вікторыяй" носяцца, як з пісанай торбай. Ужо да самога Мазурава дастукаліся, а той зноў да Кузьміна адфутболіў, а Кузьмін — да Канавалава... Вось такі, разумееш, футбол на дзяржаўным узроўні. Хай бы прама сказалі: не пройдзе, друкаваць нельга... Дык — не! Гуляюць у футбол. Ніяк рашэння прыняць не могуць: быў "культ" ці не было? Можа, ён толькі прысніўся... І смешна, і плакаць хочацца...

— Лепш смейся, — прапаную я.

Мы ідзем у напрамку Алесевага дома. Гаворка наша змяніла свой накірунак — Алесь раптам ужо спакойна пытае:

— Ты верыш ва ўваскрэсенне Хрыста?

— Хрыста? Таго самага?

— Ну якога ж яшчэ?

Яшчэ не страціўшы надзеі, што пазбегну падвоху, на якія вялікі майстра Алесь, адказваю пытаннем на пытанне:

— А ты верыш?

— Хацеў бы верыць, хочацца верыць! — сур'ёзна гаворыць ён. — Такая, разумееш, акалічнасць: апостал Павел абяцае, што калі ўваскрэсне сын божы, дык перш-наперш ліквідуе ўсялякае начальства!

Я гляджу на яго недаверліва:

— Не можа быць...

Алесь прыпыніўся і пастукаў пальцам па маім ілбе:

— Апосталаў трэба чытаць, таварыш Васілеўскі. А ты аднаго Шамякіна чытаеш...

*(Працяг на стар. 15)*

**Аўтару гэтых успамінаў, нашаму вядомаму празаіку і драматургу, ветэрану Вялікай Айчыннай вайны Пятру Васілеўскаму ўчора споўнілася 75 гадоў.**

**Нарадзіўся ён на Клімаўшчыне. У 1940 годзе, пасля сканчэння дзесяцігодкі, быў прызваны ў армію. Вайну сустрэў у Карэліі, там прымаў удзел у баях. З 1942 года — карэспандэнт армейскай газеты. Быў двойчы паранены. Пасля вайны працаваў у газеце "Сталинская молодежь", вучыўся ў школе-студыі МХАТа і інстытуце кінематаграфіі. Шмат гадоў працаваў рэжысёрам на "Беларусьфільме". Выдаў аповесці "Новый день", "Первопуток". Галоўны ж творчы набытак — у галіне драматургіі. З-пад яго пяра выйшлі п'есы "Год дзевяцьсот семнаццаты", "Чалавек вярнуўся", "Любоў, Надзея, Вера...", "Дзіўны дом", "Твой заўтрашні дзень" і інш. Як сцэнарыст і рэжысёр прымаў удзел у стварэнні многіх мастацкіх і дакументальных кінафільмаў.**

**"ЛіМ" віншуе Пятра Савельевіча з юбілеем, зычыць яму найперш здароўя, шчасця, новых творчых поспехаў.**

## Віцебск: вясна мастацкая

**“Студэнцкую вясну” (ужо чацвёрты раз запар) сустракаў ды прымаў Віцебск — сёлета з 6 па 10 траўня. Яе склалі маладзёжны форум з выступленнямі ды абмеркаваннямі тэмы “Маладзёжныя грамадскія фарміраванні і дзяржаўная маладзёжная палітыка ў Рэспубліцы Беларусь”, а таксама навукова-практычная канферэнцыя “Моладзь у працэсе сацыялізацыі”. У першым, так бы мовіць, мерапрыемстве, бралі ўдзел усе, хто пажадаў; на канферэнцыі радзіліся й раіліся спецыялісты, навукоўцы. Традыцыйна прадстаўляліся творчыя калектывы навучальных устаноў (эстраднымі жанрамі, клубам вясёлых і знаходлівых, хорамі і да т. п.). Сёлета вянчаў праграму фестываль фестываляў “Віцебск мастацкі” — на пятачку перад Малевічавым УНОВІСам на вуліцы Праўды збіраліся прадстаўнікі прыгожых мастацтваў ды іхнія прыхільнікі... 9 траўня тэатралізаванае свята “Чалавецтва. Вясна. Перамога” распачало шэраг буйных і невялічкіх віцебскіх фестываляў ды пленэраў. Самым першым, вядома, будзе Шагалаўскі.**

**Н. К.**

## Нягледзячы ні на што



**“Караль” Славаміра Мрожака ўвасобіўся ў прэм’ерны спектакль Мінскага абласнога драматычнага тэатра намаганнямі рэжысёра Венядыкта Растрыжэнкава, мастака Віктара Цімафеева і кампазітара Алега Залётнева, а таксама спрыяннем перакладчыка Івана Чаркаса і стараннем акцёраў Яўгена Іўковіча, Віктара Багушэвіча, Алега Чэчанёва і Аляксандра Пашкевіча. 29 красавіка маладзечанская сцэна і зала ядналіся ў сваіх пачуццях ад выканання і сузірання драматычнае клаунады (жанр спектакля)... прыстасавальніцтва, добраахвотнага даносу і саўдзелу ў злачынстве. Мрожак, як заўжды, верны сабе. Акцёры і на гэты раз — дакладныя, кідкія, і... абаяльныя. Нягледзячы ні на што.**

**Ж. Л.**

*На здымку: Віктар Багушэвіч (Дзядуля) і Алег Чэчанёў (Унук).*

*Фота У. МЯЖЭВІЧА*

## Кветкі на шоўку

**Дзівоснай прыгажосці кветкі і птушкі, найтонкіх спалучэнняў фарбаў арнаменты і сцены храмаў пераносілі гледача ў свет незвычайны і непаўторны... Карціны здаваліся то падобнымі на крылы матылька, то на кавалачкі неба... А намаляваныя яны былі па шоўку... Выстава шаўкаграфіі — батыку — пад назвай “Вясна—надзея” адкрылася ў Беларускім мастацкім ліцэі пры Акадэміі мастацтваў Беларусі 24 красавіка. На ёй прадстаўлены працы выкладчыцы ліцэя Алы Свірыдэнкі і яе вучняў — Яны Моўчан, Алены Пацюшкі, Настассі Арцем’евай, Алесі Прэнц, Вікторыі Бараненкі, Таццяны Осіпавай, Вікторыі Касцючэнкі, Алены Куковіч, Алены Грэхавай і Аляксандра Кунцэвіча. А. Свірыдэнка працуе ў ліцэі ўсяго адзін год, але вынікі яе творчай і педагагічнай працы, прадстаўленыя на выставе, уражваюць — вучні сапраўды пераймаюць майстэрства сваёй выкладчыцы, кожны ў сваёй манеры, згодна прыродзе свайго таленту, ствараюць прыгажосць на шаўковых палотнах, натхняючыся не толькі экзатычнымі матывамі, але і вобразамі беларускай гісторыі і літаратуры. Думаецца, што батык, гэты унікальны мастацкі жанр, у айчынным мастацтве мае добрую перспектыву і багаты творчы патэнцыял.**

**Н. К.**

ЗГАДКІ

# Убачанае здалёк...

**15 траўня Барыс Іванавіч Сачанка адзначыў бы свой чарговы дзень нараджэння. Але вось ужо амаль два гады яго няма побач з намі. Пайшоў ён з жыцця раптоўна, поўны планаў і задум. Так і не здзейсненых... Аднак ягоная самаахвярнасць, працавітасць, служэнне Бацькаўшчыне — не забытыя. І не толькі на Беларусі, але і далёка за яе межамі. Сёння мы друкуем згадкі пра Барыса Іванавіча тых, хто лічыў яго сваім далёкім сябрам — Вітаўта Кіпеля і Янкі Запрудніка.**

## ПАМЫСНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА І СУМНАЯ, СУМНАЯ СТРАТА

Мы сустрэліся ўсяго некалькі разоў у Мінску. Крыху даўжэйшая ў нас была перапіска. Але хоць нашае знаёмства трывала коратка, было ў нас наладжана плённае супрацоўніцтва, на мой погляд, гэтак патрэбнае беларускаму адраджэнню, прагрэсу. І вось аб гэтым кароткім, на жаль, вельмі кароткім, працоўна-асабістым кантакце — жменька ўспамінаў-разважанняў.

Адзін з нашых супольных знаёмых сказаў мне напрыканцы 1980-х гадоў: “Вітаўт, Барысу Сачанку трэба абавязкова дапамагчы эмігранцкай літаратурай, асабліва мастацкай, даследніцкай, гістарычнай. Сачанка плануе азнаёміць, хоць трохі, грамадства на Бацькаўшчыне з дзейнасцю беларускай эміграцыі”. Слоў няма — для мяне гэта была свежая думка, ды яна супадала з маёй марай! Гадамі я марыў, як было б добра, каб нацыянальна думаючае грамадства на Бацькаўшчыне ведала, што робіцца ў галіне беларусікі на Захадзе. Вісела ж татальная заслона на сапраўдную інфармацыю, а дэзінфармацыя дасягала нечуваных памераў!

Не вагаючыся, я вырашыў Барысу Сачанку дапамагаць. Праз іншага нашага агульнага знаёмага і прыяцеля я выслаў Барысу Сачанку ладную пачку з кнігамі. Неўзабаве атрымаў я ад сп-ра Сачанкі такі адказ: “Не ведаю, як і дзякаваць Вам за нечаканы, дарагі, а галоўнае, патрэбны мне ў працы падарунак... Так, я мог з Вамі ўбачыцца, калі быў у Нью-Йорку і наведаў тую бібліятэку, дзе Вы працуеце. Быў захоплены тым, як падабрана там беларуская літаратура і асабліва слоўнікі. Хацеў пабываць я і ў Англіі, але мне было даручана кіраваць рабочай групай па падрыхтоўцы праекта Пастановы Савета Міністраў БССР па рэалізацыі Закона аб мовах. А становішча з мовай у нас Вы ведаеце, якое. Давялося ахвяраваць паездкай і сустрэчай з Вамі. Вам пра гэта пішу першаму, каб ведалі, чаму я не змог прыехаць у Англію”. І далей у лісце быў працоўны змест: як і што плануецца і патрэбнае ў працы.

Гэткі быў пачатак нашаму супрацоўніцтву. Я слаў спадару Сачанку, што ён прасіў,а таксама і тое, што я ўважаў патрэбным, каб было на Бацькаўшчыне. Наладзілася сістэматычная перапіска. Я выказваў свае погляды, даваў свае тлумачэнні, заўвагі, выпраўляў недакладнасці, фальш. Барыс Сачанка таксама рэгулярна пісаў. Ліставанне было вельмі рабочае, працоўнае. У адным з лістоў Барыс Сачанка пісаў: “Вельмі рады быў атрымаць ад Вас аж два лісты з адказамі на мае пытанні, кнігі, пасланыя мне... Заўтра вышлю Вам кнігу паэзіі Л. Геніюш “Белы сон” і сваю кнігу “Сняцца сны аб Беларусі”. Не судзіце сурова мяне за некаторыя недакладнасці і ацэнкі дзеячаў эміграцыі — тады, калі я пачынаў адкрываць неадкрытае, інакш было нельга: кніга не выйшла б. І так мяне некаторыя ў партыйных выданнях называюць ледзь не фашысцкім прыхваснем. Зараз я падрыхтаваў новае выданне “Беларускай эміграцыі”, дзе многае і папраўлена, і напісана па-новаму”.

Далей супрацоўніцтва развівалася глыбей. Барыс Сачанка быў рады атрымаць творы і дадзеныя пра А. Бярозку; я даслаў яму шмат камплектаў перыёдыкаў. Удакладніў шматлікія эмігранцкія псеўданімы, лёсы некаторых пісьменнікаў. У адным з лістоў Б. Сачанка пісаў: “Падрыхтаваў я і здаў у выдавецтва зборнік успамінаў “На суд гісторыі”. Дасылаю Вам яго змест. Можа, падкажаце, што варта было ўключыць, а я не ўключыў? Не асуджайце мяне вельмі! Я не ўсё ведаю, што было ў друку, а бібліяграфіі назваў у нас замежных выданняў няма... Што яшчэ (улучыць) — падкажыце ці — яшчэ лепш — дашліце, калі не палічыце з майго боку гэта нахабствам? — копіі некаторых матэрыялаў, бо пры ўсім маім жаданні сёе-тое ў Мінску не знойдзеш днём з агнём”.

І гэтак ліставанне і супрацоўніцтва ішло. Амаль заўсёды выбачаючыся, Барыс Сачанка прасіў матэрыялаў, а я што мог слаў, тлумачыў. Відавочна, што не заўсёды мы згаджаліся ў той ці іншай ацэнцы тае ці іншае падзеі, дзеяча. Але мы заўсёды знаходзілі супольны працоўны падыход ды найважнейшае, што мы на ўсё глядзелі з беларускага пункту гледжання. У гэтым, дабро для беларускай справы, і была аснова нашага супрацоўніцтва. Мне часам бывала няёмка, калі Барыс Сачанка выказваў мне падзяку, а мне здавалася, што гэта непатрэбна, “занадта”. Так было са зборнікам “На суд гісторыі”, які ён мне падпісаў: “Вітаўту Кіпелю з самымі добрымі пачуццямі і вялікай удзячнасцю за дапамогу. Каб не Вы, гэтая кніга ніколі не ўбачыла б свету”. Але і я дзякаваў Барысу Сачанку. Праз яго мы атрымалі ў ЗША амаль поўны камплект (арыгінал) “Нашай Нівы”. Атрымалі мы некалькі, на беларускім кніжным рынку рэдкіх, кніг як для БІНІМа, гэтак і для Нью-Йоркскае Публічнае бібліятэкі. Шмат з тых рэдкіх кніг, а асабліва “Наша Ніва” выстаўляліся ўжо на выстаўках.

Супрацоўніцтва стала яшчэ цяснейшым і канкрэтным пасля сустрэч у Мінску. Меў я нагоду і прыемнасць пабываць і пазнаёміцца (і ў Мінску, і ў Нью-Йорку) з сям’ёй Барыса Сачанкі. Аглядзець ягоную, сапраўды вартасную, бібліятэку (і з сваёй бібліятэкі ён мне падараваў вельмі цэнную для нашае сям’і і бібліятэкі кнігу!) ды таксама пазнаёміцца з вялікім калектывам супрацоўнікаў Беларускае энцыклапедыі. Знаёмства з працай энцыклапедыі было для мяне цікавым і карысным. Я пераканаўся і пабачыў спецыфічныя цяжкасці працы ў беларускай установе ў новых умовах: у шмат якіх дзялянках праца пачыналася амаль з нуля — не хапала даведнікаў, тэхналогіі. Але было жаданне тварыць аўтарытэтныя беларускія выданні. Я адчуваў сваім абавязкам у гэтай працы дапамагаць. У значнай меры — маё ўражанне — Барыс Сачанка быў рухавіком вялікага прадпрыемства, якому і ў заходніх умовах частавата не ўдаецца выжыць.

У колькіх гутарках з Барысам Сачанкам, прысвечаных энцыклапедыі, мы абодва жадалі, каб мінскія энцыклапедычныя выданні былі беларускія, з нацыянальным зместам, каб яны былі незалежныя, каб не трэба было “націскаць кнопку ў цэнтр”, а каб мы, беларусы, на месцы, без цэнзуры, вырашалі, што нашаму народу патрэбна. Я ўважаю, што на шляху нашага адраджэння, станаўлення нашае дзяржаўнасці нашыя погляды супадалі. І мы супрацоўнічалі.

І цяпер, калі не стала руплівага, адданага Беларусі працаўніка, перагледжу ліставанне з Барысам Сачанкам — і робіцца аж не па сабе, калі чытаю ў ягоным першым да мяне лісце: “Спадзяюся, што жыццё ў нас з Вамі будзе доўгае, і выпадак (пазнаёміцца) надарыцца!” Проста трагічны радок! Жыццё ў Барыса Сачанкі было жорсткае. Вельмі сумна. Нашая творчая думка шмат згубіла, мы ўсе шмат згубілі. Вечная яму памяць!

**Вітаўт КІПЕЛЬ**

## СПАТКАННІ...

З Барысам Сачанкам маё першае спатканне адбылося завочна ў Злучаных Штатах у самым канцы 1957 года. Я працаваў тады ў Нью-Йорку карэспандэнтам мюнхенскай Беларускай рэдакцыі радыёстанцыі “Вызваленне” (пазнейшая “Свабода”). Пісаў рэпартажы пра амерыканскія справы, пра беларускае эміграцыйнае жыццё. Цікавіўся, безумоўна, падзеямі на Бацькаўшчыне, каментаваў іх у радыёгутарках.

Атрымаўшы свежы нумар газеты “Літаратура і мастацтва” за 14 снежня 1957 г., адразу ж зацікавіўся там вялікім артыкулам студэнта адзялення журналістыкі БДУ Барыса Сачанкі з праграмным загалоўкам — “Шанаваць родную мову”. Тэма роднай мовы ў перадачах Беларускае рэдакцыі “Вызвалення” (“Свабоды”) была, дый застаецца, адной з цэнтральных. Русіфікацыйны наступ на беларушчыну ў 1957 годзе быў ужо ў поўным гарце, і выступленне студэнта Сачанкі прагучала не толькі своечасова, але і смела. Свой артыкул пра недарэчнасці, якія тварыліся ў рэспубліцы (“Куды б ты ні паступаў... беларускай мовы і літаратуры здаваць не трэба... усе справы вядуцца толькі на рускай мове”.) Сачанка скончыў рэкамендацыяй: “Каб наша беларуская мова ўвайшла ў паўсядзённы быт усіх слаёў насельніцтва, думаецца, што першым практычным крокам да гэтага павінна быць увядзенне выкладання ва ўсіх навучальных установах рэспублікі на беларускай мове”.

Шмат пазней ужо, калі мы з Барысам пабачыліся ўпершыню, у 1991 годзе, ён казаў мне — і я яму верыў, — што гэты артыкул даваўся яму ў знакі праз усе наступныя дзесяцігоддзі. Хоць, праўда, і не перашкодзіў дайсці да адказных становішчаў.

Далейшыя спатканні з Сачанкам, таксама завочныя, расцягнуліся на 1960 — 1980-ыя гады. Імя ягонае часта траплялася на старонках літаратурных часопісаў, газеты “ЛіМ”, якія прыходзілі ў бібліятэку радыё “Свабода” ў Нью-Йорку. Мастацкіх твораў Барыса Сачанкі я чытаў няшмат, пра іх меркаваў больш паводле радыёгутарак Станіслава Станкевіча, які, жывучы ў Нью-Йорку, быў пазаштатным супрацоўнікам “Свабоды”. Станкевіч даваў пазітыўную ацэнку Сачанкавым творам. Прыкладам, у радыёгутарцы пра аповесць 1966 года “Апошнія і першыя” ён казаў: “Сіла мастацкае экспрэсіі галоўна ў тым, што аўтар, перадаючы духовы боль малога Ясіка (герой твора) з воддалі дваццацігадовай даўнасці ды пераплятаючы сваю споведзь собскім роздумам над трагедыяй усяго беларускага народа, нідзе і ў нічым не парушыў жыццёвае праўды” (перадача 11 лютага 1967 г.)

Затое Сачанкавай публіцыстыкай я цікавіўся даволі блізка. Бо і сам ёю займаўся. Уражанне пра ягоныя зацікаўленні і перакананні заставалася асветленае першым знаёмствам з ім праз артыкул у “ЛіМе” ў абарону роднай мовы. У публіцыстыцы найлепш, бадай, выявілася ягонае апантанае зацікаўленне беларускай культурнай спадчынай, якую пакалечыла і прыдушыла — пісьменнік гэта балюча адчуваў - бальшавіцкая догма.

Барыс Сачанка прабаваў прыбудаваць неяк да палітычнай сістэмы, у якой давялося круціцца, сваю беларускую справу, што ляжала яму на сэрцы. Ён ішоў менш-больш — іншага выхаду не бачыў — слядамі беларускіх нацыянал-камуністаў 1920-х гадоў, трагічная доля якіх вярэдзіла яму душу, трывожыла ягонае сумленне. Пра іх ён даволі рана ў сваёй даследніцкай працы пачаў думаць і пісаць. У артыкуле на тэму “Якой павінна быць крытыка?” Сачанка даволі празрыста і смела асудзіў “тую крытычную мітульгу, што заўсёды вілася і ўецца каля літаратуры” (“Маладосць” N 10, 1971). Тады ўжо ён разумеў выратавальную ролю гістарычнай памяці, ажыўленню якое прысвяціў апошнія гады свайго жыцця. Згадаўшы гады знеслаўлення “крытычнай мітульгой” (чытай: партыйнымі крытыкамі, тагачаснымі лукашэнкаўцамі) класікаў беларускай літаратуры, “нашу сённяшнюю нацыянальную гордасць”, Сачанка сцвярджаў: “Трэба помніць старое, каб не паўтараць памылак”. І тут жа выяўляў крэда свайго прынцыповага актывізму ў падыходзе да жыцця: “Не толькі час уплывае на людзей, але і людзі — творцы часу”. Барыс Сачанка імкнуўся быць “творцам часу”. Асцярожна, каб не трапіць у няміласць вартаўнікоў афіцыйнай догмы, ён трымаўся сваіх перакананняў. Гэта зырка выявілася ў ягоных “Думках уроссып”, надрукаваных у “ЛіМе” ў 1983 годзе, лейтматывам якіх была настойлівасць на праўдзе ды неабходнасць гістарычнай памяці.

Можа таму, што яму давялося ў часе нямецкай акупацыі Беларусі трапіць у якасці “остарбайтэра” ў Нямеччыну, у Барыса заўсёды было моцнае зацікаўленне жыццём беларускай эміграцыі. З часам ён пачаў спецыялізавацца на гэтай тэме. Ягоны партыйны статус даваў яму доступ да некаторых спецфондаў. Дый сам ён, будучы вялікім кнігалюбам, меў сёе-тое з беларускіх замежных публікацый. Эміграцыйная тэматыка знайшла месца і ў ягонай белетрыстыцы. Тут у нас з Барысам адбылася свайго роду дыстанцыйная перастрэлка вакол пытання пра характар беларускай эміграцыі. Нагоды для спрэчак былі

розныя. Гэтак, прыкладам, у жнівеньскім нумары "Маладосці" за 1984 год было змешчана ягонае апавяданне "Сцяпан Сцяпанавіч Замошка". Сачанкаў Замошка быў эмігрантам у Амерыцы перад тым як вярнуцца ў Савецкі Саюз, дзе з ім і пазнаёміўся аўтар апавядання. Замошкавы выказванні пра эміграцыю былі вытрыманыя, зразумела, у духу часу — трэба было асуджаць палітычную дзейнасць эмігрантаў. Але аўтар мусіў расказаць сёе-тое і з амерыканскага жыцця, з якім ён, пэўна ж, не быў абазнаны. Замошка ў Сачанкі крытыкаваў беларускае культурнае жыццё ў Амерыцы: "Нельга назваць культураю тыя гурткі мастацкай самадзейнасці, — казаў ён, — дзе танцуюць беларускія танцы і пяюць беларускія песні, часта пад сцягам чужой краіны і тымі, хто нават гаварыць пасвойму ўжо не ўмее". Гэта дало мне нагоду ў адной з радыёгутарак пагаварыць пра культурную дзейнасць беларусаў у Злучаных Штатах ды нагадаць майму апаненту, што дзецям з мяшаных беларуска-амерыканскіх сем'яў, якія танцуюць беларускія танцы, можна дараваць няведанне беларускае мовы, але куды горш выглядае, калі ў Амерыку прыязджаюць прадстаўнікі культуры з Беларусі і не ўмеюць гаварыць па-беларуску.

Сачанкава зацікаўленне эміграцыяй, даволі рызыкоўнае на свой час, не зважаючы на пэўную тэндэнцыйнасць ацэнак, што былі абумоўленыя і палітычнай кан'юнктурай, і асабістай неасведамленасцю, ладна паспрыяла сучаснай лепшай азнаёмленасці беларускага грамадства на Бацькаўшчыне не толькі з самой эміграцыяй, але і з тымі духовымі, дакументальнымі, мастацкімі ды навуковымі вартасцямі, якія эміграцыя перахавала і стварыла.

Улетку 1988 года двое маіх блізкіх ньюйоркскіх сяброў, нябожчык Коля Заморскі і прафесар Томас Бэрд, быўшы на Беласточчыне на нейкай беларускай культурнай падзеі, ці не на Купаллі, пазнаёміліся з групай пісьменнікаў з Беларусі, сярод якіх быў і Барыс Сачанка. Абодва вярнуліся ягонымі шчырымі прыяцелямі, пабачыўшы ў ім самаахвярнага патрыёта і адраджэнца.

Коля трымаў кантакт з Барысам, выслаў яму пасылку, тэлефанаваў, прасіў прысляць кнігі. Барыс адказаў лістом, датаваным 22 верасня 1988 года. "Жыву я паранейшаму, — пісаў, — шмат працую. Вынікі мае працы зможаш убачыць на старонках нашых часопісаў. Час сёння спрыяе праўдзе і справядлівасці". Адпісаць на ліст Коля ўжо не змог: злёг цяжка хворы ў шпіталь. Папрасіў мяне паслаць Барысу ліст ад ягонага імя. Я напісаў, але падпісвацца Запруднікам пабаяўся, не быў пэўны, ці не пашкодзіць Сачанку кантакт з "бебурнацам", падпісаў Паўлам Янкоўскім.

Першае вочнае спатканне з Барысам адбылося ў Мінску ў 1991 годзе ў часе майго побыту ў Беларусі пасля 47-гадовага чакання на магчымасць вярнуцца так, каб не ставіць сваякоў пад пагрозу з боку ўлады. Настаілі часы, калі агульным назоўнікам сталася беларускасць, а не партыйная прыналежнасць ці ідэалагічныя погляды. Сустрэліся мы з Барысам як старыя знаёмыя, заклапочаныя тымі самымі праблемамі выжывання нацыянальнае дзяржаўнасці, культуры, роднае мовы. Барыс шчыраваў на выдавецкай ніве. Ён узначаліў энцыклапедычнае выдавецтва, і руплівасць пра адраджэнне, працавітасць і арганізацыйныя здольнасці далі ў суме багаты выдавецкі плён у форме фундаментальных (хоць часамі і крытыкаваных за недахопы) выданняў.

Ад 1991 года ў нас былі штогадовыя спатканні. Бываў я ў ягонай запоўненай кнігамі хаце з гасцінным застоллем, у ягоным кабінеце, перапоўненым выдавецкімі планамі і спехам паспець зрабіць як мага больш. З удзячнасцю прыняў ягоную прапанову ў 1993 годзе выступіць з гутаркай перад рэдактарамі ачольванага ім выдавецтва.

Падзеі і палітычныя змены 1994 года Барыс успрыняў з вялікай трывогай за тую справу, якой самаадданa служыў. Баяўся найгоршага. І хто ведае, як гэта паўплывала на стан ягонага здароўя.

Ён мог яшчэ зрабіць шмат чаго карыснага. Але пражытага часу не змарнаваў. Наадварот. Плён ягонай творчай і арганізацыйна-выдавецкай працы стаіць сёння як помнік Барысу-Кніжніку. Тамы выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя", што з'явіліся на свет ягонымі стараннямі, — гэта багатая крыніца ведаў, да якое будуць прыходзіць беларусы розных пакаленняў і розных перакананняў, каб даведацца пра скарбы свае зямлі і народа, пачарпнуць з іх веру ў неўміручасць Бацькаўшчыны.

**Янка ЗАПРУДНІК**

ПАМЯЦЬ

# Ён вымагаў прызнання...

***Яшчэ нядаўна мы бачылі Юру Кухаронка ў прэм'ерных спектаклях Тэатра юнага гледача: яго адухоўленага, узнёслага, захопленага сваёй справай Дырыжора, які запраўляў вясёлым музычна-казачным відовішчам "Кошчынага дому" паводле С. Маршака. Запомнілі і вожыка Нільса ў казцы "Ніхто не паверыць" паводле Я. Экхольма. Хоць персанаж гэты другарадны, эпізадычны, здаецца, зусім нявыйгрышны, а вось акцёр зрабіў яго прыкметным у спектаклі. Вожык двойчы з'яўляўся на сцэне і дзеці, якіх не так лёгка прымусіць слухаць тэкст, калі ён нічым не аздоблены — не суправаджаецца музыкай, скокамі, пантамімай, — уважліва яго слухалі...***

***Юры Кухаронак адышоў добрым, душэўным, далікатным... З тэатра. З жыцця.***

***Жыць уласна тэатрам і ў тэатры Кухаронак пачынаў у Гродне, у абласным тэатры, куды трапіў пасля сканчэння Беларускага тэатральна- мастацкага інстытута (курс В. Рэдліх, Ю. Сідарава, А. Карсакоўскага). Сыграў свае першыя ролі. Пайшоў служыць у армію. Вярнуўся ў тэатр...***

***Па-акцёрску спраўдзіўся ўжо на магілёўскай сцэне: яго зорная часіна — канец сямідзесятых. Сведчыць і згадвае пра тое Лізавета Катковіч, па тым самым часе вядучая актрыса Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра (услед за Ю. П. Міроненкам акцёры Л. Катковіч і Ю. Кухаронак у 1978 годзе пакінулі Магілёў і перайшлі ў Тэатр юнага гледача):***



— Юрый — акцёр непаўторны. Ён імгненна ўбіраў у сябе ўсе меркаванні, усе заўвагі і пажаданні рэжысёра, вельмі гнуткі быў, меў вельмі важную і рэдкую для акцёра якасць: слухаць, разумець задуму рэжысёра і хутка яе ўзнавіць, перадаць, развіць. Вось ён выходзіць на сцэну, пачынае гаварыць — і настолькі ўсё лагічна, сцэнічна. І такі тэмбр голасу! Рухаўся цудоўна! Таленавіты чалавек. Прырода шчодра надзяліла Юру: дала яму голас, музыкальнасць, пластычнасць, акцёрскія здольнасці. І працавітасць.

У спектаклі "За ўсё добрае — смерць" М. Ібрагімбекава ён іграў Сабіра — гэта быў такі Сабір! Юра стварыў вобраз, як бы цяпер сказалі, "крутога" хлопца, які ад сцвярджэння культу сілы, праз жорсткасць, жахлівае, агіднае, праз пакуты і сорам, праз згрызоты сумлення ішоў да прасвятлення. Юра перадаваў найтанчэйшыя зрухі ў душы, ствараў надзвычай цэласны, глыбінны характар. Ну проста, як кажуць, карункі плёў у гэтай ролі. Дарэчы, у спектаклі ўсё было зроблена надзвычай тонка. А перад Ю. Кухаронкам — Сабірам — я проста схіляюся. Лічу, што гэта была сама дасканаласць. Спектакль ішоў, так бы мовіць, на адным дыханні. Я марыла іграць там хоць... забітага немца, толькі б быць на сцэне: кожную вольную хвіліну бегла ў тэатр на спектакль, каб яшчэ і яшчэ раз адчуць асалоду ад ігры Юры, ад спектакля. Дарэчы, яго глядзелі з аднолькавым захапленнем і дарослыя, і дзеці, а два першыя рады нязменна займалі прыхільніцы Юры.

Ён працаваў у спектаклях вельмі эмацыйна, кранальна, як чалавек працавіты і вельмі адказны. Хваравіта ўспрымаў няўдачы. Ён вымагаў прызнання.

Папершапачатку, калі Юра толькі прыйшоў у тэатр, я не прыняла яго. Як партнёрка блізка сутыкнулася з ім у спектаклі "Арфей спускаецца ў пекла" Т. Уільямса, дзе ён быў Вэлам, а я іграла Лейдзі. Ягоны Вэл быў жывы, кранальны, зямны, наш сучасны хлопец з вуліцы. І разам з тым меў вельмі чулую, балесную душу. Працавалі мы з ім вельмі цяжка. Напярэдадні прэм'еры Юрый Паўлавіч Міроненка сказаў, што ў спектаклі ёсць усё, нават паасобку Вэл і Лейдзі, няма толькі Вэла-мужчыны і Лейдзі-жанчыны, дык, маўляў, ідзіце і падумайце. І вось мы хадзілі-хадзілі, гаварылі-гаварылі, высвятлялі дачыненні... І ў спектаклі атрымаўся, як пісалі ў газетах, і рух думкі, і напал пачуццяў. Вэл Ю. Кухаронка быў здольны вярнуць да жыцця ўжо зняверанюю ва ўсім Лейдзі, вярнуць сваім высакародствам, сваёй самаахвярнай любоўю. Мы вельмі любілі гэты спектакль...

І ў жыцці Юра быў прыстойным, здольным на высакародныя ўчынкі. Яму можна было даверыць таямніцу. Ён быў сапраўдным сябрам на ўсё жыццё, верным, адданым рэжысёру, спектаклю. Мы раўніва ставіліся адзін да аднаго, да поспеху ў спектаклі, але калі каму з нас нешта пагражала, другі прыходзіў на дапамогу. Юра ніколі не быў здраднікам, заўсёды меў сваю думку і адстойваў яе. Ён не цярпеў, калі пры ім каго-небудзь зневажалі, знішчалі, прыніжалі. З магілёўскіх часоў у мяне захавалася пачуццё ўдзячнасці да Юры. Маладыя, мы ўсе сябравалі. Юра ўмеў нас усіх сабраць, паяднаць. І ўмеў не забываць, памятаць. Так было і ў Тэатры юнага гледача. На Радаўніцу мы заўсёды ездзілі на могілкі да Юрыя Паўлавіча Міроненкі (Юра збярэ, арганізуе).

Шкада, што ў Мінску мы не ўбачылі Юрыя Кухаронка ўжо ў той сіле, як на магілёўскай сцэне, хоць ролі, што ён сыграў у Тэатры юнага гледача, заўсёды былі зроблены прафесійна. Юра быў адданы партнёр на сцэне і ў жыцці. Любіў іграць у камедыях. Добра атрымліваліся ў яго характарныя ролі. Ён запамінаўся і ў невялічкіх эпізадычных ролях, як сантэхнік дзядзька Коля ў спектаклі "А ўсё-такі яна верціцца, або Гуманоід у небе мчыцца" А. Хмеліка. Юра прыцягваў да сябе ўвагу нават у масавых сцэнах. Вось у спектаклі "Песня пра Зубра" паводле М. Гусоўскага загаварыў ягоны Смерд (чалавек з натоўпу) і ўсё зрабілася ясным, зразумелым: так арганічна ўстаўляў і прамаўляў ён свае рэплікі. Нездарма ў адной з рэцэнзій на спектакль вылучылі яго безыменнага героя. Сыграў Юра і Васіля ў "Подыху навальніцы" паводле І. Мележа, і настаўніка Дзюйшэна ў "Першым настаўніку" паводле Ч. Айтматава, і Папа ў "Казцы пра Папа і яго работніка Балду" паводле А. Пушкіна. Быў ён Жухраем у "Як гартавалася сталь" А. Дударава паводле М. Астроўскага і Блазнам у "Пушкінскіх казках". І ўсё ж зорка Юры так і не ўзышла ў Мінску. Падкасіла, мабыць, смерць ягонага рэжысёра — Юрыя Паўлавіча Міроненкі. Творчая незадаволенасць засталася на ўсе далейшыя гады. Вельмі шкадую, што мы так і не здолелі ажыццявіць нашу мару: сыграць п'есу пра двух адзінокіх пакалечаных жыццём людзей. Напэўна, занадта позна мы пачалі пра гэта марыць. Трэба было раней, раней...

**Д. СТЭЛЬМАХ**

# "Сяброў маіх цудоўныя аблічы..."

*(Праця́г. Пачатак на стар. 13)*

Я збянтэжаны:

— Ну не толькі Шамякіна... І Адамовіча...

— Чытай апосталаў! Біблія ў цябе ёсць? — Я ківаю: ёсць. — Шкада! Хацеў табе падараваць...

Прачытаў я апостала Паўла, сапраўды, пра начальства ёсць... Але не спадзеючыся на ўваскрэсенне Хрыста, Алесь Адамовіч, пакуль білася яго палымянае сэрца, рабіў Хрыстову справу — з адвагай і непасрэднасцю славутага ідальга Дон Кіхота змагаўся з начальствам, нягледзячы на рангі і пасады. Асабліва пасля Чарнобыля і Курапат атака Алеся на начальства пачалася з такой лютасцю і непрымірымасцю, што чыноўнікі ўжо тачылі зубы і чакалі зручнага моманту, каб укусіць...

І кусалі. За што? А за прынцыповасць і незалежнасць поглядаў, за дакладныя арыенціры, якія ён пракладваў у непрадказальнай, цёмнай сучаснай рэчаіснасці. Яго апаненты з вучоных-артадоксаў, пісьменнікаў-паслугачоў, карумпіраваных чынуш, сталіністаў і берыеўцаў віскліваі зграяй кідаліся на ненавіснага беларускага ідальга-гуманіста і міратворца. Барацьба была ўпартая, не пашкодзіла б Алесю Адамовічу мець для такой заклятай бойкі два сэрцы, а яно было ў яго адно...

---

У гэтым годзе Аляксею Кулакоўскаму споўнілася б 84...

...Мы з'ехаліся ў Мінску, пакінуўшы вайсковыя шпіталі, інвалідамі айчыннай вайны — нашы раны яшчэ не зарубцаваліся. Так здарылася, што і на працу мы ўладкаваліся ў "Сталинскую молодежь". Пасляваенны быт наш толькі складваўся і першыя свае творы мы пісалі ў рэдакцыйных пакойчыках, застаючыся пасля рабочага дня. Пісалі шмат, але друкавацца не спяшаліся. Ды не вытрымалі: Аляксей надрукаваў сваё першае апавяданне "Цімкава калясачка", я — "Колькаў голуб". Цікава: нашы першыя спробы ў прозе адрасаваліся дзецям... Пісалі мы ў тыя гады, як апантаныя, спяшаліся занатаваць на паперы ўсё, што перажылі на вайне, чым напаўнялася наша жыццё ў мірны час. Мы разумелі, што адной літаратурай не пражыць — да хлеба духоўнага патрэбна хоць скарыначка звычайнага хлеба, якую выдавалі па картачцы... Трэба было працаваць, атрымліваць нейкую зарплату. Тым больш, што ў Аляксея ўжо была вялікая сям'я: жонка, дзеці, старэнькая маці. Ён усё сваё жыццё быў заклапочаны і занепакоены матэрыяльным станам свайго існавання. Ён часта пра гэта разважаў:

— Цябе заўтрашні дзень не пужае, ніякіх у цябе пакуль што клопатаў... А мне — страшна! Можаш ты гэта зразумець, кіношнік? Без стабільнага заробку, без "хлебнай" пасады з маёй хэўрай хоць зубы на паліцу кладзі. А літаратура можа пракарміць, мабыць, толькі Ваню і Андрэя. Дык яны і працуюць! Але добра, што яны багатыя. Калі што, дык у іх заўсёды можна пазычыць...

Гэта праўда: Шамякін і Макаёнак заўсёды "выручалі" Кулакоўскага. А прыйшлося яму і літаральна класці зубы на паліцу пасля жорсткіх і бязглуздых наскокаў партыйных ідэолагаў на яго выдатны твор, бадай, лепшае з усяго ім напісанага — аповесць "Дабрасельцы". Тады яго пазбавілі магчымасці друкавацца, вытурылі з пасады рэдактара часопіса "Маладосць".

Сябры не пакінулі у бядзе Аляксея, дапамагалі яму, і ён, саромеючыся, прымаў гэту "гуманітарную" дапамогу. У той цяжкі перыяд свайго жыцця чытаў ён дзённікі Льва Талстога, і мне давялося ўбачыць адзначаныя ім радкі: "Прачнуўся і дзве рэчы сталі асабліва, абсалютна ясныя мне: тое, што я вельмі дрэнны чалавек. Абсалютна шчыра кажу гэта, і 2/ што мне добра б памерці, што мне хочацца гэтага..."

Мабыць, у той цяжкі час падобны запіс Аляксей мог бы зрабіць і ў сваім дзённіку, які ён акуратна вёў...

З гадамі напружанай працы за пісьмовым сталом вочы яго пачалі здаваць, з надыходам вечара пісаць было ўжо цяжка, ён нехаця адкладваў рукапіс і званіў мне:

— Выходзь! Сустрэнемся ля фантана.

Сустрэўшыся, мы выходзілі на бакавую алею. Часам маўчалі, але больш гаварылі — пра літаратуру, пра пісьменніцкія лёсы...

— Колькі развялося пасрэдных пісак, — гаварыў Аляксей з затоеным сумам. — Ходзяць у класіках, іх "апупеі" друкуюць мільённымі тыражамі, перакладаюць нават на кітайскую мову, адзначаюць прэміямі... А той жа сапраўдны класік Кузьма Чорны усё сваё кароткае жыццё пакутаваў. Кватэру — два маленькія пакойчыкі — далі яму перад самым канцом: скараціла яму жыццё турма... Вось такая, братка, пісьменніцкая планіда ў сапраўдных талентаў...

Хацелася мне суцешыць яго, але ведаў — не любіць ён, каб яго шкадавалі, быў ён шляхетны і ганарысты чалавек, ведаў сабе цану.

Зараз, ужо без яго, іншы раз думаю: а, можа, Аляксею пашанцавала, што не дацягнуў ён да гэтых "акаянных дзён"? Прабач, дружа, за такое кашчунства, але павер мне: нам, недабіткам вайны, ужо не пад сілу чарговы гістарычны катаклізм: пагібель усіх нашых ідэалаў, за якія мы пралівалі сваю кроў, падмена іх мярзотным Камароўскім рынкам — гэтым сімвалам "перабудовы". Добразычлівых, сардэчных, мужных і мудрых выцясняюць з жыцця злыдні і мярзотнікі: казнакрады, палітычныя авантурысты, хабарнікі, бандыты і мафіёзі, прастытуткі і агалцелае, хворае на галаву начальства, якога развялося — як сабак нярэзаных...

Вось як яно жудасна павярнулася, мой незабыўны дружа!

